



# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714






http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl

№ 01 (2903) Год LVII | Беласток, 1 студзеня 2012 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Дзяўчына з Вялікага Лесу з трубой, пяром і іголкай

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

**На завяршэнні XIV выпуску Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы „Дэбют” пасярод грамады больш за сарака аўтараў і іх прыхільнікаў, роўна пасярэдзіне ў кавярні „Цэховая” ў Беластоку проста ззялі дзве немаладыя жанчыны, якія ў асяроддзі беларусаў Падляшша бачныя ад пачатку існавання беларускай грамады. Гэта дзве бландзінкі (цяпер) — Ніна Бручко-Анджэюк, гісторык, і Вольга Іванюк, якая ўсё жыццё перапрацавала пры трубах у падляшскай сталіцы. А спявалі яны і займаліся беларушчынай яшчэ з пяцідзесятых гадоў мінулага стагоддзя.**


Вольга Іванюк (злева) і Ніна Бручко-Анджэюк на „Дэбюце”

Вольга Іванюк належыць да тых членаў Падляшскай акруговай палаты інжынераў будаўніцтва, якія могуць пахваліцца адным з найдаўжэйшых працоўных стажаў — 56 гадамі праведзенымі у будаўніча-санітарнай галіне. Усе, хто ведаюць спадарыню Олю, захапляюцца яе неўтаймаванымі энергіяй, жвавасцю і жыццярадаснасцю. Надалей яна актыўная, хоць, як кажа, у меншай ступені, чым калісьці. Паколькі лянота зусім не ў яе стылі, час на пенсіі выкарыстоўвае ў іншы спосаб. Вышывае крыжыкам, ствараючы непаўторныя габелены, піша вершы і займаецца збіральніцтвам лячэбных траў.

Дарога спадарыні Олі да прафесіі не была простай. Як шмат людзей народжаных перад другой сусветнай вайной (1929 г. нар.), мусіла змагацца з рознымі, невядомымі маладым пакаленням, цяжкасцямі. Вучобу ў пачатковай школе пачала перад ваеннай завірухай. Паколькі Олін бацька загінуў у час вайны, як найстарэйшая дачка мусіла памагаць у выхаванні траіх малодшых дзяцей і ва ўтрыманні сям'і. У час акупацыі перасялілася з Вялікага Лесу (на поўдзень ад Белавежскай пушчы), дзе жыла ад нараджэння, у Гайнаўку, дзе працавала на прымусовых работах на ваеннай пабудове — чысціла ружжо і парадкавала даязныя дарогі. Вядома не было гаворкі пра тое, каб хадзіць у школу. Вучобу працягвала ўжо пасля вайны, калі ў 1947 г. пераехала ў Беласток. Тут працавала і вучылася. Яе марай была вучоба ў фельчарскім тэхнікуме, атрымалася інакш — пачала навуку ў „будаўлянцы”. Не было лёгка — наймала пакойчык пры людзях, сшыткі запаўняла на каленях, а тэхнічнае чарчэнне рабіла ў дзяжурцы стаража, ды дасягнула мэты. У той час працавала ў Варшаўскім аб'яднанні прамысловых інсталяцый у аддзеле нумар 7 у Беластоку, пазнейшым Беластоцкім прадрыемстве прамысловага будаўніцтва — аддзел санітарных работ. Была гэта спачатку фізічная работа на пасадзе брыгадзіра, манцёра. Разам з брыгадай выконвала дрэнаж, абязводжванне зямлі, вентыляцыйныя работы, тэрмічныя інсталяцыі, муравала. Паколькі не было машын (першы экскаватар паявіўся ў шасцідзесятыя гады), усе работы выконваліся ўручную, а матэрыялы вазілі фурманкай. Гэтая работа была, вядома, цяжкай для шчупленькай, дробнай жанчыны. Здараліся працы і на вышыні, ды Оля не наракае — любіла рабіць і гэта. Усё мусіла праверыць уласнаручна — „штымавала” трубы, каб быць упэўненай, што ўсё дагледжана як трэба. Такія жанчыны ў Беластоку пры „мужчынскай” рабоце былі дзве. Ад 1967 года аж да адыходу на пенсію Оля працавала ў Ваяводскім прадпрыемстве цеплавой энергетыкі ў Беластоку (цяпер Гарадское прадпрыемства цеплавой энергетыкі — МРЕС). З большых інвестыцый, пры ўзнікненні якіх прымала ўдзел Вольга Іванюк, можна пералічыць тэкстыльнае прадпрыемства „Фасты”, піваварня „Дайліды”, будынак радыё ў Беластоку, студэнцкія інтэрнаты палітэхнікі па вуліцы Вейскай, цеплавыя каналы пры Беластоцкай палітэхніцы, спартыўную залу па вуліцы 11 Лістапада, цэх вытворчасці сухога малака ў Гайнаўцы, земляныя работы пры Медыцынскай акадэміі ў Беластоку ад вуліцы Міцкевіча... Было гэтага шмат — пасля вайны Беласток спачатку падымаўся, а пасля разбудоўваўся.



— З вялікім гонарам гляджу на тое, што збудавалі мае рукі! — усміхаецца спадарыня Оля і паказвае свае маленькія спрацаваныя далоні, якія ж яшчэ і ўмела, гожа і з мастацкай задумай вышываюць меншыя ці нават манументальныя габелены-карціны. Таксама з відамі роднай Белавежскай пушчы, той самай з боку Гайнаўкі, як і Вялікага Лесу. На карцінах дрэвы як сапраўдныя — елкі, бярозы, сосны, грабы, дарогі, падрэчкі, звяры і птушкі...

Глядзім на іх у яе кватэры на Сонечным Стоку ў Беластоку.

— Цяжка іх аддаць ці прадаць камусьці — яны ж кожная ў мяне як роднае дзіця, якое даглядаеш не адзін дзень! — любуецца працай сваёй уявы і рук спадарыня Оля.

Пачала Оля вышываць крыжыкам у сваіх 55 гадоў.

— Ад пачатку — з галавы, а не з гатовых шаблонаў. Прадстаўляюць яны сцэны з майго жыцця, паказваюць успаміны, але і мары ды сны. Кожная карціна мае сваю гісторыю, а таксама сваю вершаваную метрычку.

Вершы ў жыцці Олі былі ад заўжды. Вывучвала гожыя вершы аўтараў з кніжак, з падручнікаў, пакуль яшчэ прачыталі іх у школе. Гэтая любоў да паэзіі не змянілася да сёння. Былыя супрацоўнікі кажуць, што ніхто, як Оля, не ўмее разварушыць публіку на сустрэчах у прадпрыемстве, на якія і да сёння яе запрашаюць. Пачынае яна співаць, дэкламаваць вершы, таксама свежыя, прысвечаныя паасобным калегам, пасля асмеленыя госці далучаюцца да Олінай праграмы. Вершы піша для ўласнай прыемнасці.

— Маёй інспірацыяй з'яўляюцца задрэнні, важныя нагоды, уласныя роздумы. Прыняць удзел у нашым конкурсе заахвоціла мяне Ніна Бручко-Анджэюк.

Оля Іванюк цікавіцца таксама зеллем. Збірае яго ў лесе, вырошчвае ў сваім агародчыку. У тайны траўніцтва ўвяла яе маці, а як дзейнічаюць пераканалася Оля на ўласнай скуры. Ва ўзросце двух гадоў апарыла руку так, што лекары не бачылі выйсця, каб яе ампутаваць да локця. Мама не дала адрэзаць рукі, забрала малую дахаты і лячыла руку зеллем, якое называюць *учэп* — чарада трохраздзельная (*Bidens tripartita*). І піша яна ў вершы: „Ніякай работы гэтыя ручкі не пабаяліся”. А яе габелены маюць паэтычныя назвы.

*Люблю ў агародзе /габеленавы чар / Блукаючы блеск іголкі / калі сонца цыруе лета. / Весела звініць іголка / ахвотна смяецца нітка / Дадае бляску і прамень свята / што раптам выбірнуў з-за хмары. / Узорам надзеі аб вясне / тугой па гарачым леце / кружыць шлях матылёў. / Салодкія колеры / у атласе свежай расы / На небасклоне Святая Рука / расцягнула габелены / прыгожа...*

А пра вялікі габелен „Белавежская пушча”:

*Світанак гожай чырванню*
*прывітаў Пушчу.*
*Месяц узняўся перад усходам*
*І залацістыя рогі прадвяшчаюць*
*Над лесам пагоду паміж бяроз.*

Оля Іванюк абяцае ўзяцца і за гістарычны аповед. Пра свайго тату, які лічыўся царскім сынам. Цікава, праўда? Да гэтай пары здавалася, што ў яе хапае часу на ўсё. Што ж гэта — толькі 82 гады?..





# Паштоўка палітвязню

*Здавалася б, што ўжо можа быць прасцей, чым адправіць каму-небудзь паштоўку з віншаваннямі і пажаданнямі, асабліва калі ёсць такая нагода. Аказваецца, у нас і гэта не так проста як здаецца, хоць нагода ёсць вялікая. Набліжаюцца калядныя і навагоднія святы. Людзі мітусяцца, каб знайсці падарункі родным, блізкім ды знаёмым. Шукаюць патрэбнае. А больш напружваюць мазгі над тым, які гэта мусіць быць падарунак. Цешацца, калі ведаюць чым парадаваць блізкага чалавека. Бо галоўнае ў гэтай справе менавіта ведаць што прынясе чалавеку прыемнасць.*

*А вось тым, хто асуджаны і адбывае пакаранне, асабліва нічога і не прыдумаеш. Нельга нічога. У астрогах на Беларусі ўсё жорстка рэгламентавана колькі і каму можна перадаць перадачаў, і што ў тых перадачах можа быць. Таму, калі выбіраеш падарунак зняволенаму, усю перадсвяточную рэкламу можна і не глядзець. Нельга падарыць у вязніцу, прыкладам, мабільны тэлефон, хоць ён там вельмі патрэбны. Традыцыйная навагодняя бутэлька шампанскага таксама не была б лішняй.*

*Застаецца толькі паштоўка. Яе, нібыта, яшчэ можна пасылаць. Падарунак невялікі, але таму, хто знаходзіцца ў цяжкіх умовах зняволення, сэрца парадаваць можа. І чалавеку за кратамі стане крыху лягчэй, ды і самому стане прыемна, што ў тваёй душы яшчэ цепліцца хрысціянская і ўвогуле звычайная чалавечая патрэба парадаваць іншага. Асабліва ў адно з найвялікшых хрысціянскіх святаў.*

*Застаецца толькі паштоўку выбраць адпаведную. Каб прыгожая была, стылёвая. З густам. І галоўнае, каб на ёй надпіс быў па-нашаму, па-беларуску. Бо паштоўка не абы-каму, а людзям, якіх праваабаронча і іншыя шматлікія арганізацыі, і свае, і замежныя, абвясцілі вязнямі сумлення. Але беларускія ўлады гэтага і не прызнаюць. Няма, кажуць яны, у нас палітычных зняволеных. Але кожны можа і сам думаць.*

*А што тычыцца мовы, то з большага тыя людзі нават на судах размаўлялі панашаму. Дык на якой жа мове ім мусіць быць паштоўка? Толькі па-беларуску!*

*У гарадзенскіх кнігарнях паштовак безліч. Зайшоў у адну, ажно вочы разлятаюцца. Выбірай якую хочаш. Вось толькі па-нашаму аніводнай не знайшлося. Усе па-руску. Пасунуўся ў другую. І там тое сама. Думаю, адзін не спраўлюся з такой звышскладанай задачай — паштоўку набыць. Стаў прасіць знаёмых дапамагчы. А ў тых такая самая праблема. Кажуць, зноў дэфіцыт вярнуўся ў дзяржаву нашую. Гэтым разам на прадукцыю на беларускай мове.*

*Толькі праз дзень усім разам удалося знайсці паштоўкі на роднай мове. Праўда, не зусім тое, што хацелі. Не знайшлося паштовак з надпісам „З Калядамі!”, або „З Божым нараджэннем!”. Не было нават „З Новым годам!”. Знайшлі проста з адным словам „Віншую!”. І „Са святам!”. І тое так нас усцешыла, што не маглі нарадавацца. Як жа мала трэба чалавеку для шчасця!*

*А пасля, падпісваючы паштоўкі людзям з якімі я сябраваў, або працаваў, або проста быў знаёмым ці аднадумцам, Алесю Бяляцкаму, Андрэю Саннікаву, Паўлу Севярынцу ды іншым зняволеным, увесь час думаў, што трэба напісаць паштоўку з пажаданнем хутчэйшага вызвалення з вязніцы і беларускай мове. Бо яна таксама за кратамі. Сядзіць у астрогу палітзняволенай. Толькі куды яе пасласць, тую паштоўку?*

*З гэтымі думкамі і прыйшоў на пошту. І там, пасля размовы з адной з супрацоўніц, зразумеў, што мушу напісаць гэты артыкул. Яна ўбачыла, што я пішу на канверце нашае „і” з кропкай і ўскрыкнула:*

*— Ой, прасціце меня. Вы хіба пасылаеце адкрыткі за границу, а я вам наклеіла маркі па Беларусі.*

*— Не за мяжу пасылаю, а ў астрогі, — адказваю я.*

*— Куды, куды? — не зразумела дзяўчына.*

*— У турму, — удакладняю.*

*— В цюрму? В нашу? — збянтэжана спытала яна.*

*— У вашу, у вашу, — адказваю ёй.*

*І тут у яе вачах я ўбачыў звычайнае чалавечае спачуванне, дабрыню і шчырае жаданне дапамагчы бліжняму чым можа.*

*І я ўдзячны ёй. Хоць ад яе дапамогі, яшчэ больш пагана на душы стала.*

*— Дык вы не мучайцесь, — параіла яна. — В нашу цюрму можна і па-руску пісаць.*

**Віктар САЗОНАЎ**



# Горкі сок з салодкай цыбулі

*Памалу развіталіся мы са старым годам. Асвоіліся з ім, прыручылі яго, калі трэба, дык улупілі яму або ён нам, і яксьці ўсё прайшло. Горш з новым. Кажуць, мае быць канец свету. А сама ж шарападобнасць зямлі дaказвае, што канец і пачатак гэта паняцці адносныя. Хіба што калі трэба гэта акрэсліць арбітральна. Націскаючы, напрыклад, атамную кнопку. Ну і што ж, што пасля нас застануцца самыя насякомыя? На пачатак добра і гэта. Бо калі гаворка пра канец, то ўпісайся ён няўхільна ў наш лёс, калі прамазгі рэптылій, якія купаліся ў шчаслівым бяздумстве, затакаваў бы вельмі ядавітай плесні, званай шэрым рэчывам. Адразу таксама пачалося спекуляванне, расследаванне ды мардаванне. Возьмем, скажам, спрадвечную спрэчку наконт узнікнення Зямлі. Калі адны ўпіраюцца, што існуе яна 4,6 млрд. гадоў, другія скачуць ім да вачэй са Святым Пісаннем, крычаўшы, што найбольш пару тысячаў! Мяне пераконваюць вылічэнні вучонага XVII ст. Джона Лайтфута, які даказваў, што наш свет узнік дакладна 22 кастрычніка 4004 г. да н.э. Гэта праўда! На добрыя задумы можна разлічваць выключна ўранні! Ведаю гэта па сабе. Якраз у такую пару я адкрыў, што цыбуля можа быць прыкметай добрай музыкі. Якраз слухаў я канцэрт для віяланчэлі Антаніна Дворжака, калі ахапіў мяне воўчы голад. А паколькі нічога іншага не было ў мяне пад рукою, угрызся я ў сырую цыбуліну. Аднак Дворжака не ўдалося далей слухаць — заглушвала яго хрумстанне цыбулі. Затое бум-бум-лёскату гэта зусім не мяшае. Пераканаўся я ў гэтым хвіліну пазней, калі перад маёй хатай прыпынілася аўто поўнае маладзёнаў, падскокваючых у такт музыкі тэхна. Іхняя машына трэслася, мая хаціна таксама. А я амаль не выскачыў з самога сябе. Ну, ды на сённяшнюю моладзь панаракаю пасля. Цяпер спяшаю, каб падзяліцца сваім цыбульным роздумам: музыка, якую можна паслухаць, адначасова грызучы цыбулю, не заслугоўвае гэтага шляхетнага імя! Вагаюся, ці аналогію цыбулі я павінен прыкладваць да Аляксандра Лукашэнкі. Цікавіць мяне, аднак, ці пад маскай яго надзьмутых мін і грамаўладных паглядаў хаваецца штосьці больш, чым толькі ганарыстасць. Тым не менш вельмі мяне ён ашарашыў, калі дапусціў да дзяржаўнага тэлебачання астролага, які прадбачвае Беларусі светлую будучыню. Вядома, пад кіраўніцтвам Аляксандра Лукашэнкі! Калі ласка, звярніце ўвагу на тое, што Гітлер меў таксама такога спецыяліста, ды трымаў яго выключна для сябе. А Лукашэнка — не. Гэтую інфармацыю абнародаваў тэлеканал „Белсат”, толькі трохгодак, ды поўны спелай бадзёрасці.*

*Цыбуля, быццам бы звычайная гароднiна, а пабуджае да глыбокай рэфлексіі! Калі яе аблупіць слой за слоем, у далонях не застаецца нічога, літаральна нічога! Ці таксама самага нічога не знайшлі б мы ў сэрцах сённяшняй моладзі, калі б іх аблушчыць з павярхоўнай нахабнасці, лёгкадумнасці і невуцтва? Маем XXI стагоддзе. На гісторыю маёй сям’і наклалася шмат асобых гісторый. Так маёй бабулі Феліксы, яе сына і майго бацькі, як і мая. І на мне, мабыць, сарвецца шматпакаленневая памяць, паколькі наступаючая пасля мяне генерацыя абсалютна ігнаруе сямейнае мінулае. А сягае яно жывой памяццю аж да XVIII стагоддзя. Аднак гэты асабліва аповед у сапраўднасці пачаўся ў палове гэтага працягу ўспамінаў, ад маці бабулі Феліксы, Анелі, якая дажыла ў здароўі 106 гадоў, часта ўспамінаючы аб сваёй бабулі, народжанай пры пачатку XIX стагоддзя. Тая ў сваю чаргу памятала аповеды сваёй прабабці аб гожых жаўнерах напалеонаўскай арміі, ідучых на Маскву. Невядома чаму на гэтым моманце рвецца шматпакаленневы аповед. Ці таксама па віне майго маладога і непаслухмянага продка?*

*Цікава, што ўжо ў старажытнасці наракалі на маладых, якіх абвінавачвалі ў грэбаванні мінулым, з-за чаго свет усё больш паршывее. Бурчэлі на іх Гамер, Авідзій, Гарацый. Ды затое Плутарх прыводзіць падмацоўваючае, хоць горкае, выказванне Агіса, спартанца, на абвінавачанні аднаго старэчы: „(...) чуў я ад бацькі, што (...) яму, як дзіцяці, гаварыў гэта ягоны бацька. Не трэба затым здзіўляцца, што рэчы, якія наступаюць пасля, горшыя ад папярэдніх, ды хутчэй тыя, што наступаюць пазней, пад нейкімі прыкметамі лепшыя ад тых, што былі раней (...)”. Ну, што ж, гэтыя словы — як горкі сок з салодкай цыбулі. Не ідзе ён нікому ў смак, усё ж падмацоўвае надзею. І хай так яно і застанецца.*

**Міраслаў ГРЫКА**

**Вачыма еўрапейца**

# Адышоў член сям’і



*— Быў ён маэстра дэмакратыі і свабоды, а ягонае імя назаўжды застанецца злучаным са справай з’яднанай Еўропы, — сказаў старшыня Еўрапейскай камісіі Жазэ Мануэль Барозу на вестку аб смерці Вацлава Гавела, былога прэзідэнта Чэхіі і дзеяча дзеля дэмакратычнай Цэнтральна-Усходняй Еўропы. Калі б не Радыё Свабода, мала хто ўсведамляў бы, што Вацлаў Гавел да канца пераймаўся несправядлівасцю і імкненнямі да свабоды ў Беларусі. Мабыць, апошні тэкст, які выйшаў з-пад ягонай хворай рукі, скіраваў ён (на просьбу кіраўніка „Свабоды”) беларускім апазіцыянерам перад гадавінай пацыфікацыі мінскіх пратэстаў пасля прэзідэнцкіх выбараў 19 снежня 2010 года. Напісаў у ім: „Дарагія сябры! Я хачу перасказаць вам сардэчныя пажаданні на парозе Новага года і пажадаць вам і вашым блізкім, каб быў ён лепшым ад мінулага. Я салідарны з вамі і надалей буду выкарыстоўваць усялякія магчымасці, каб разам з усімі сябрамі звяртаць увагу міжнароднай грамадскасці на правапарушэнні ў Беларусі”. Як звычайна, да ліста Вацлаў Гавел далучыў уласнаручна нарысаванае сэрцайка. Гэты ліст мелі атрымаць восем асоб, між іншым зняволеныя кандыдаты на прэзідэнта Беларусі Андрэй Саннікаў і Мікола Статкевіч ды старшыня Праваабарончага цэнтра „Вясна” Алесь Бяляцкі.*

*Калі перад мінуўшым якраз грыгарыянскім святам Раждажства Хрыстовага я парадкаваў свае паперы, знайшоў між імі экземпляр мінскай апазіцыйнай „Нашай нівы”. На першай старонцы рэдакцыя змясціла супольны здымак Вацлава Гавела і Алеся Бяляцкага. Гэта была спасылка на артыкул у нумары, прысвечаны шанцам, якія меў заяўлены на мірную ўзнагароду Нобелеўскай прэміі старшыня „Вясны”, а што падтрымліваў якраз Вацлаў Гавел (сам Алесь Бяляцкі, дарэчы, не верыў у тое, што так будзе). Пасля смерці былога чэшскага прэзідэнта я прачытаў выказванне на яго тэму Уладзіміра Някляева, праследаванага рэжымам Лукашэнкі кандыдата на прэзідэнта ў 2010 г., знакамітага паэта, падобна як выдатным драматургам быў Вацлаў Гавел. Уладзімір Някляеў гаварыў:*

*— Смерць Вацлава Гавела гэта вялікая страта для беларускага дэмакратычнага руху. Гэта быў наш чалавек у Еўропе. Пастаянна выступаў у сусветнай прэсе, кранаючы справы Беларусі (...). Я страціў члена сям’і.*

*І дадаў:*

*— Беларуская апазіцыя шмат страціла ў хвіліну яго смерці, таму што ён падтрымліваў нас, дзе толькі мог ды не толькі словамі. Выканаў вельмі шмат рэальных жэстаў, звязаных з непасрэднай дапамогай беларускаму дэмакратычнаму руху (...). Гавел гэта значна больш чым палітык і хтосьці больш чым пісьменнік. Гэта вялікая постаць, чалавек рэнесансу. Тое, што ён зрабіў для Чэхіі, учыніў таксама не толькі для Еўропы, але для Польшчы, для Беларусі, для ўсяго свету.*

*Я думаю, што гэта дзякуючы Вацлаву Гавелу Прага стала адным з найважнейшых, калі не найважнейшым эміграцыйным цэнтрам беларускай апазіцыйнай думкі і непасрэдна прытулкам для беларускіх апазіцыянераў, як, скажам, спыненага нядаўна ў варшаўскім аэрапорце „Акенце” польскай памежнай службай (па заяве Інтэрпола і патрабаванні беларускіх улад; пісалі мы аб гэтым тыдзень таму) былога кандыдата на прэзідэнта Алеся Міхалевіча. Гэта дзякуючы Вацлаву Гавелу пісьменнік і заснавальнік Беларускага Хельсінскага камітэта Васіль Быкаў трапіў у Чэхію, калі ў 2002 г. кончылася яго стыпендыя ў Нямеччыне. Падобных прыкладаў можна пералічыць шмат. Будзе нам не хапаць Вацлава Гавела — першапраходцы ўсходнееўрапейскай дэмакратыі.*

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Пад 120-годдзе Міхалова (1)




**17 снежня 2011 года адбылася ў Міхалове міжнародная канферэнцыя „Міжкультурны дыялог: Беласток — Гродна, Міхалова — Ваўкавыск”. Мерапрыемства ладзілі бурмістр Міхалова, Беларускае гістарычнае таварыства, Гмінны асяродак культуры ў Міхалове ды Майстэрня фільма, гуку і фатаграфіі ў Міхалове. А прымеркавана яна была да чаканай у наступаючым годзе 120-й гадавіны заснавання цяперашняга горада Севярынам Міхалоўскім. Міхалова на працягу гэтага часу было шчыльна звязана з названымі ў загалоўку канферэнцыі мясцовасцямі. А задума канферэнцыі выйшла ад Тамаша Вісьнеўскага, які вядзе згаданую майстэрню. У канферэнцыі прынялі ўдзел навукоўцы з Гародні па той істотнай прычыне, што амаль уся дакументацыя міхалоўскага мінулага знаходзіцца ў архівах Гародні, якая ў час запуску Міхалова ў абдымкі Кліо — музы гісторыі, была губернскім цэнтрам. Праўда, мясцовы гісторык Лешак Нос напісаў манаграфію Міхалоўскай гміны з істотным гістарычным зместам — выдадзеную ў 2009 годзе — аднак не меў ён дастатковых магчымасцей карыстацца згаданымі архівамі. Вёў канферэнцыю і зачытаў першы даклад старшыня Беларускага гістарычнага таварыства прафесар Алег Латышонак.**

Алег Латышонак расказаў пра Ваўкавыскае княства. Нямнога захавалася вестак пра княства, толькі фрагменты, але з іх можна збудаваць даволі змястоўны вобраз сярэдневяковага мясцовага мінулага. Ваўкавыскае княства ўзнікла ў межах Гарадзенскага княства, а тое — у сваю чаргу — з Тураўскага. Нашы тутэйшыя землі распаложаны паміж трыма вялікімі рэкамі — Нёманам, Бугам і Прыпяццю — якія ў даўніну былі важнымі камунікацыямі. Тут перасякаліся ўплывы суседзяў, якія пачаргова займалі гэтыя землі пад сваё панаванне. Недзе ў палове XI стагоддзя тутэйшая тэрыторыя трапляе пад панаванне кіеўскага князя Яраслава Мудрага, які загадаў пабудаваць тут апорныя крэпасці, м.інш. Гародню, Ваўкавыск, Слонім, Наваградак, Драгічын. Гарадзенскае княства ўзнікае ў 1120-х гадах, аднак не самастойнае яно, толькі падпарадкаванае Кіеву. Цікавае, што гарадзенскія і валынскія рыцары насілі лацінскія шлемы, якімі яны адрозніваліся ад сваіх саюзнікаў. У Гарадзенскае княства даволі рана пранікае царкоўнае будаўніцтва, узводзяцца мураваныя цэрквы ў Гародні (Барысаглебская на Каложы), Ваўкавыску ды Наваградку (выпрацоўваючы ўласныя архітэктурныя стылістычныя адметнасці), што сведчыць пра наяўнасць там асобных княстваў, бо будаванне мураваных храмаў абазначала свайго роду княжацкую прывілею, сведчанне важнасці ўладара. Хаця межы Ваўкавыскага княства дакладна невядомыя, аднак трэба меркаваць, што ў яго межах была бальшыня тэрыторыі цяперашняй Міхалоўскай гміны. Археалагічныя раскопкі ў Ваўкавыску выявілі мноства зброі球 рознага прызначэння. Гарадзенскае княства ў XIII стагоддзі падпала пад націск суседзяў. З аднаго боку расла літоўская дзяржава, а з другога — валынская; у выніку запанавалі на тутэйшай тэрыторыі літоўскія князі.

Доктар Генадзь Семянчук, навуковы супрацоўнік гродзенскага Купалаўскага і кракаўскага Ягелонскага ўніверсітэтаў, у прыватнасці — ураджэнец Ваўкавыска, сцвердзіў, што даўней Ваўкавыск быў важным камунікацыйным вузлом, бо галоўная камунікацыя з Кракава і Любліна ў Вільню пралягала не цераз Гародню, але менавіта цераз Ваўкавыск. І менавіта ў Ваўкавыску Ягайла затрымаўся ў час свайго першага падарожжа ў Кракаў у 1385 годзе. Спадар Семянчук расказаў таксама пра цікавы генезіс узнікнення назвы Шведская гара, што высіцца ў Ваўкавыску. Паводле легенды меў там быць пахаваны нейкі выдатны шведскі палкаводзец, а гару на ягонай магіле насыпалі салдаты, носячы туды зямлю ў сваіх нагавіцах. Аднак тапонім Шведская гара выводзіцца з XIX стагоддзя і гэтую назву ўкаранілі расейцы дзеля ўнушэння простанароддзю, хто з’яўляецца яго галоўным ворагам, шведы ж у Ваўкавыску ў час колішніх войнаў не бывалі. Цікава яшчэ тое, што ў Ваўкавыску ў XVI стагоддзі адбываліся соймы Вялікага Княства Літоўскага ў час бескаралеўя, м.інш. літоўскія баяры абмяркоўвалі свае пазіцыі перад выбарам Стафана Баторыя. Тут таксама былі вынесены першыя прапановы змен у Літоўскім статуце, які — варта ведаць — захаваў сваю правамоцнасць і ў нас да 1842 года. Не зважаючы на розны адміністрацыйны ранг Ваўкавыска і Міхалова, працэсы, якія адбываліся ў гэтых мясцовасцях, мелі агульныя супольныя рысы — шматканфесійнасць і шматкультурнасць. Ваўкавыск, як і іншыя гістарычныя гарады ў нашым наваколлі, паказаўся на гістарычную сцэну ў палове XI стагоддзя. Калі Яраслаў Мудры выцесніў з гэтых зямель мазавецкага князя Мецлава (Маслава), ён заснаваў тут, на Панямонні і Пабужжы, свае гарнізоны м.інш. у Гародні, Наваградку, Слоніме, Ваўкавыску, Драгічыне, Мельніку, Браньску, Бельску ці Суражы. І геапалітычная сітуацыя не змянялася тут аж да пачатку XV стагоддзя. Ваўкавыск з-за сваёй тапаграфіі з’яўляецца горадам спецыфічным: яго працягласць з усходу на захад складае каля дваццаці пяці кіламетраў, у ім не было аднаго гарадскога цэнтра, толькі тры.



прафесар Алег Латышонак

Сяргей Токць з Гародні расказаў пра Міхалова сярэдзіны XIX стагоддзя на падставе захаванага ў гродзенскім архіве інвентара маёнтка Севярына Міхалоўскага ў Незабудцы (так называў мясцовасць аўтара даклада) з 1845 года. Маёнтак складаўся з фальварка, дзе жыў уласнік, калоніі Незабудка, дзе ўжо жылі нямецкія майстры ды з дзвюх вёсак: Пянькоў і Кабылянкі; пражывала там 471 сялянская душа. Плошча маёнтка складала 110 валокаў зямлі, а гэта было 2218 дзесяцін; дзесяціна парытэтная гектару. 47% гэтай плошчы было ў карыстанні сялян, а больш чым паловай карыстаўся пан. Панскія ўгоддзі ахаплівалі ў гэтым ліку і 687 дзесяцін лесу. З гэтага лесу кожнай сялянскай гаспадарцы належалі зімою па дзве фуры драўніны і па адной летам. Пра выдзяленне драўніны для будаўнічых мэтаў вырашаў пан — даваць лес ці не. У сярэднім кожны гаспадар меў па семнаццаць дзесяцін зямлі, значыць на той час сяляне былі даволі заможнымі. Напрыклад, у Пяньках было 38 двароў, у якіх сяляне трымалі 48 коней, 80 кароў, звыш сотні цялят і мелі 25 вулляў. У маёнтку былі чатыры карчмы, млын, фолюш (сукнавальня), была паравая вінакурня, дзе гналі гарэлку, і піваварня. Ды сорак суконных фабрык, дзе і працавалі немцы. Было восемдзесят штук рагатага быдла, трыста штук авечак. Найбольшы прыбытак маёнтку давала вінакурня, дзе выраблялася тры тысячы вёдзер гарэлкі ў год, а вядро тады было роўнае 12,3 літра, значыць у Міхалове выраблялася амаль трыццаць сем тысяч літраў гарэлкі ў год, а гэтая колькасць давала на душу насельніцтва семдзесят восем літраў; тады гарэлкі пілі шмат. У піваварні выраблялі шэсцьсот вёдзер піва ў год. Сяляне абраблялі зямлю валамі і сахой, сеялі жыта, грэчку, авёс, ячмень ды ўжо садзілі бульбу. З агародніны вырошчвалі буракі, капусту, цыбулю, мак. Галоўны прыбытак пану Міхалоўскаму — 75% — давалі вінакурня і піваварня. Сяляне былі залежныя ад пана і адраблялі паншчыну — па тры дні ў тыдзень; мужчыны ва ўзросце ад шаснаццаці да шасцідзесяці гадоў, а жанчыны ад пятнаццаці да пяцідзесяці. Апрача паншчыны трэба было дастаўляць пану грыбы і ягады. Большасць сялян складалі праваслаўныя, каталікоў было менш. Большасць праваслаўных належала да Гарадоцкага прыхода, а вёска Кабылянка — да Нававольскага. Сяляне працавалі таксама на фабрыках; іх гадавы заробак дазваляў купіць добрага вала. Найбольш багата жылі леснікі, а найбяднейшымі былі агароднікі, у якіх па сутнасці не было зямлі і з-за гэтага ім было цяжка ажаніцца ці выйсці замуж. Амаль палову насельніцтва складалі дзеці да пятнаццаці гадоў.

Іна Соркіна з Гародні расказала пра дакументы датычныя Міхалова, што захоўваюцца ў віленскім Літоўскім дзяржаўным гістарычным архіве і ў гродзенскім Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі. Міхалова там называецца па-рознаму: Нязбодкай, Нязбудкай, Міхаловам, Міхайлавам. І сама мясцовасць называецца то мястэчкам, то калоніяй, аднак фармальна Міхалова не лічылася мястэчкам, толькі калоніяй. А гэта важна, бо статус мясцовасці вызначаў дазвол на пасяленне або яго забарону ў адносінах да яўрэяў. Менавіта з 1782 года да, практычна, 1917 года яўрэям у прынцыпе забаранялася сяліцца па вёсках. Толькі пры панаванні цара Аляксандра II, з 1863 года да 1882 года быў той прамежак часу, калі былі адменены пасяленчыя забароны. І верагодна тады ў Міхалова з’яўляюцца яўрэі. У 1902 годзе была спроба юрыдычна перавесці некаторыя паселішчы вясковага рангу ў ранг мястэчак гандлёва-прамысловага значэння, якая не атрымала, аднак, юрыдычнай моцы, хаця Міхалова было неяк прылічана да невялікай колькасці выключэнняў, дзе пасяленне яўрэяў дазвалялася. У тагачаснай Гродзенскай губерні такіх мясцовасцей было трынаццаць, м.інш. Старасельцы і Супрасль пад Беластокам, Альбярцін каля Слоніма, Жабінка на Палессі. У пачатку XX стагоддзя было ў Міхалове 106 гандлёва-паслуговых устаноў. Было 13 мураваных будынкаў і звыш трохсот драўляных. Па аб’ёме гандлёвых абаротаў Міхалова ў сваёй катэгорыі паселішч займала ў губерні трэцюю пазіцыю пасля Альбярціна і Супрасля. У 1907 годзе ў Міхалове пражывала каля пяці тысяч насельніцтва, было шмат фабрык. Уладальнікі буйных фабрык вялі сябе строга, а ўладальнікі меншых і рабочыя па святах напіваліся, таму, мабыць, рабочыя і жылі бедна. Нямецкія каланісты не ўплывалі на мясцовых жыхароў, яны жылі адасоблена, захоўваючы свае традыцыі, а навучальныя ўстановы, якія яны засноўвалі, служылі адно іхняй грамадскасці. Фабрыканты не ведалі рускай мовы, яны да рабочых звярталіся па-польску — польскую мову ведалі амаль усе нямецкія каланісты. Не зафіксавана праводжання ў Міхалове кірмашоў, жыхары мястэчка, як і прамыслоўцы карысталіся вонкавымі гандлёвымі цэнтрамі, такімі як Беласток, Кнышын, Ганёндз, Заблудаў, Харошча. У Міхалове развіваўся стацыянарны гандаль; гэтым займаліся жыды.

## У сямі нянек...

У час роварных вандровак наведаў я Мокрае і Дубяжын, што ў Бельскай гміне. З захапленнем назіраў я за пераменамі, якія прайшлі тут у апошнім часе. Глядзеў на шыкарна адрамантаваныя святліцы, акуратна дагледжаныя сялянскія сядзібы. І адно мяне ўразіла ў гэтым ідылічным краявідзе — старэнькі калдобісты брук на вясковай вуліцы. Нічуць не падыходзіць ён да цывілізацыйнага прагрэсу. Калі ў суседніх Кошках, Градалях ці Аляхшах Арлянскай гміны, салэцтвах намнога меншых вуліцы асфальтаваны, дык у Дубяжыне ці Мокрым памятаюць пэўна цара-бацюшку. Няўжо жыхары гэтых вёсак не



заслужылі крышачку пашаны з боку самаўрадавых чыноўнікаў? Усё ж такі праблема не сёння з'явілася. У Дубяжыне, напрыклад, загуменная дарога за вёскай (да „Каўфлянда") даўно асфальтаваная, а асноўная артэрыя ўжо дзесяткі гадоў не перамяняе віду. Як патлумачыў сябра з Дубяжына, праблема ў тым, што гэтая апошняя лічыцца дарогай гміннай, а вуліца — павятовай. І ў тым праблема. У народзе кажуць: „У сямі нянек — дзіця без вока". І гэта праўда. Але ёсць і іншая праўда. Гмінны самаўрад пакарыстаўся еўрасаюзнымі сродкамі і задбаў за аднаўленне будынкаў старой школы і святліцы ў Дубяжыне. Чаму тады Павятоваму прадпрыемству публічных дарог не пакарыстацца прыкладам гміны і не напісаць праекта дзеля паправы дарожнай інфраструктуры? У народзе кажуць: „Хацець — значыць магчы". Варта затым пакарыстацца народнай мудрасцю, паважаныя начальнікі ПППД у Бельску-Падляшскім.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Паездка ў Беларусь

Сваімі ўражаннямі ад паездкі ў Беларусь разам з ляўкоўскімі „Цаглінкамі" ў лісце ў рэдакцыю падзялілася кіраўнік калектыву „Устроне" **Альжбета Русецкая-Кухарская**.

„Сустрэча з людзьмі праваслаўнага веравызнання ўзбагаціла нашы веды і пашану для вызнаўцаў іншай рэлігіі. Сустрэліся мы з жыхарамі і ўладамі тамашняга рэгіёна (Васілішкі Старыя, Адэльск, Гродна) і за гэтую супольную інтэграцыю мы вельмі ўдзячныя. Іх адкрытасць, шчырасць, зычлівасць гэта рысы, якіх нам не стае ў міжчалавечых кантактах у сённяшні цяжкі час. Іх гасціннасць і стаўленне да нас пераўзышлі ўсе спадзяванні. Мы не хавалі слёз і ўзрушанасці. Гэтыя людзі сталі для нас быццам бліжэйшая сям'я, якой мы прычынілі вялікую радасць. Мы прыемна ўражаны іх гасціннасцю, заклапочанасцю, апекай — былі яны з намі і сярод нас увесь час нашай пабыўкі. Яны — узор для пераймання, прыклад як трэба жыць сярод людзей і як памагаць іншым.

Супольная інтэграцыя была для нас урокам талерантнасці і эмпатыі, за што мы вельмі ўдзячныя.

З усяго сэрца, са слёзкай у воку і ўзрушанасцю дзякуем за такі цёплы і выключны прыём у Беларусі.

Разлічваем на тое, што наша сустрэча дасць пачатак пастаяннаму супрацоўніцтву і дружбе паміж намі".

Лявон КАРПОВІЧ

# Нарадзіўся вам сёння Збаўца

*„Слова сталася целам і пасялілася між намі".*
**Ян, 1:14**

**За сотні гадоў да нараджэння Хрыста ў Біблії былі запісаны словы прарокаў Ізраіля, якія прадказвалі Яго прышэсце. У Старым Запавеце, які пісаўся многімі людзьмі на працягу 1500 гадоў, змешчана больш за 300 прароцтваў гэтай падзеі. Першае з іх выказана з вуснаў Бога ў прысудзе змею. Гэта быў план выратавання грэшнага чалавека і вяртання яму бессмяротнасці: „І варожасць пакладу паміж табою і паміж жанчынаю, і паміж семем тваім і паміж семем яе: яно будзе біць цябе ў галаву, а ты будзеш джаліць яго ў пяту" (Быццё, 3:15).**

Калі Марыя была ўжо цяжарнай, выйшаў загад рымскага кесара Аўгуста. Дзе хто не жыў, дзеля перапісу павінен прыйсці ў тое месца, дзе жылі яго продкі. Іосіф і Марыя паходзілі з роду цара Давіда, таму павінны былі ісці ў Віфлеем. Ад Назарэта да Віфлеема было болей двухсот кіламетраў. Такое падарожжа ў тыя часы патрабавала некалькі дзён праз гарыстую Самарыю. Пакуль цяжарная Марыя змагла дабрацца да месца, усе дамы былі запоўнены прыйшоўшымі людзьмі. Свабоднай была толькі пячора, куды заганялі авечак у час непагоды.

Тут, у пячоры, уся мэбля якой складалася з ясляў з саломай, нараджаецца Збаўца. Слова становіцца целам і пасялілася між намі, Бог становіцца чалавекам. Многа разоў у розныя спосабы Бог прамаўляў да чалавека. Цяпер прамовіў да нас праз Свайго Сына!

Так Бог умілаваў свет, што Сына свайго Адзінароднага даў, каб кожны, хто ў Яго верыць не загінуў, але меў жыццё вечнае.

Дзень Божага нараджэння ад IV веку, часу ўстанаўлення гэтага свята, стаў днём асабліва ўрачыстым у хрысціянскім свеце. Сама падзея нараджэння Ісуса Хрыста апісана вельмі суха ў Евангеллях ад Мацвея (1:18-25) і Лукі (2:1-7). Людская набожнасць патрабавала больш шырокага апісання Божага Нараджэння. Гэта прывяло да шматлікіх проб адлюстравання гэтай тэмы ў розных формах мастацтва, пачынаючы з сярэдніх вякоў да цяперашняга часу. Многія з твораў паслужылі ілюстрацыямі да шматлікіх паштовых марак, якія выпускаюцца амаль ва ўсіх краінах свету. На марках з'яўляюцца відарысы твораў Рафаэля і Джота, Дзюрэра і Леанарда да Вінчы, Мікеланджэла і Тыцыяна, Батычэлі і Рубенса, Берніні і Пусэна, Рэмбранта і Караваджыо...

У першай палове XV стагоддзя асаблівых рысаў набрала сцэна нараджэння Хрыста, якая атрымала назву „Ушанаванне Дзіцяткі". Стала яна адной з найважнейшых ілюстрацый тэмы прышэсця Ісуса на свет.

Першая марка, прысвечаная Божаму Нараджэнню, з'явілася 7 снежня 1898 года. Почта Канады выпусціла марку (Mi. 74), на якой адлюстравана карта свету з надпісам CHRISTMAS.




Гэтая марка дала пачатак новай тэме ў філатэліі. З таго часу колькасць марак, прысвечаных Божаму Нараджэнню, вырасла да тысяч і выдаецца поштамі, хіба, усіх краін свету. З-за немажлівасці адлюстраваць і апісаць такую колькасць марак, прапануем толькі выбраныя некалькі прыкладаў.

У 1986 годзе пошта Германіі выпусціла марку і картмаксімум (паштоўка з наклеенай на вонкавай старане маркай з такім самым матывам, пагашанай паштовым штэмпелем такога ж матыву) з відарысам Артэнбергерскага Алтара (Ortenberger Altar) з 1430 года. Цудоўны вобраз укленчанай Марыі ў ціхім ушанаванні і малітве перад ляжачым маленькім Дзіцяткам. Марыя нарадзіла Яго ў спосаб надпрыродны і першая аддала ўшанаванне і паклон Дзіцятку, абнятаму прамяністай глорыяй, згодна са словамі Святога Пісьма: „Якога парадзіла і ўшанавала...". Дзіцятка, лежачы ў яслях з правай рукой у жэсце благаслаўлення, сімвалізуе Боскасць і паўнату розуму ад хвілі Свайго нараджэння. Паказаная далей стайнячка, вельмі ўбогая, сімвалізуе руіны



дому Давіда, які калісьці быў каралём, і надыход новай эпохі. Бо нарадзіўся Той, Чыё каралеўства будзе „зацверджана навекі", Які збудуе „новы дом".

Амаль люстранае адбіццё малюнка з маркі Германіі мы бачым на выпушчанай у 1998 годзе марцы пошты Польшчы. Ілюстрацыя ўзята з Алтара Грудзёндзскага (каля 1390 г.), які захоўваецца ў Нацыянальным музеі ў Варшаве.

Карціна, намаляваная мастаком Антоніо Караджа (1489-1534) больш за сто гадоў пазней, поўнасцю захоўвае папярэднюю сімволіку. Карціна адлюстравана на адным з самых вялікіх блокаў (173 x 235 мм), які выпушчаны поштай Карэі ў 1983 годзе.




Першая беларуская марка, прысвечаная нараджэнню Ісуса Хрыста, надрукавана 23 снежня 1997 года. На марцы адлюстраваны звычай калядавання на свята Божага Нараджэння, калі каляднікі ў калядоўных строях і з Віфлеемскай зоркай абыходзяць дамы веруючых і спяваюць калядныя песні.

*Святы час Божага Нараджэння злучае нашыя думкі і сэрцы, аб'ядноўвае нас сілаю міласці Бога да чалавека і чалавека да Бога, напаўняе радаснай удзячнасцю, якую прыносім Айцу за Яго неабсяжную міласць да людзей, якую аб'явіў у сваім Сыне.*

„Нарадзіўся голы, гаворыць Бог, каб ты мог вырачыся самога сябе.

Нарадзіўся ўбогі, каб ты мог лічыць Мяне адзіным багаццем.

Нарадзіўся ў стаенцы, каб ты навучыўся асвячаць кожнае месца.

Нарадзіўся слабы, каб ты ніколі Мяне не баяўся.

Нарадзіўся з любові, каб ты ніколі не ўсамніўся ў Маёй любові.

Нарадзіўся ноччу, каб ты паверыў, што магу асвяціць усялякую рэчаіснасць, ахутаную цемрай.

Нарадзіўся ў аблічы чалавека, гаворыць Бог, каб ты ніколі не саромеўся быць сабою.

Нарадзіўся як чалавек, каб і ты мог стаць сынам Божым.

Нарадзіўся, церпячы пераслед з самага пачатку, каб ты навучыўся прымаць усялякія цяжкасці.

Нарадзіўся ў беднасці, каб ты быў просты ў адносінах да людзей.

Нарадзіўся ў тваім чалавечым жыцці, гаворыць Бог, каб усіх людзей прывесці да дому Айца".

Лёсы

Сяргей ЧЫГРЫН

# Браты Гумянякі са Слохаў

*У лютым 2006 года ў „Ніве" быў апублікаваны мой артыкул „Прывітанне Сямятычам ад Мізгіроў", дзе я пісаў пра лёс Веры Андрайчук, якой тады ўжо было 100 гадоў. Вера Андрайчук была родам з Сямятычаў, але ў пасляваенны час разам з сям'ёй яна жыла на Слонімшчыне ў вёсцы Мізгіры.*

На мінулым тыдні я зноў завітаў у вёску Мізгіры — самую далёкую вёску Слонімскага раёна. Наведаў хату, дзе жыла Вера Андрайчук. Яе нявестка Лізавета сказала, што іх бабулька ўжо памерла.

„Але я ведаю, што ў Мізгірах жыве шмат іншых беларусаў, якія родам з Беласточчыны. Як іх знайсці?", — пытаюся ў спадарыні Лізаветы Андрайчук.

„Сапраўды, у нашай вёсцы вельмі шмат жыло і жыве людзей, якія нарадзіліся на Беласточчыне, найперш гэта ў саміх Сямятычах і ў навакольных з Сямятычамі вёсках. Але многія, на жаль, ужо памерлі, — уздыхнула Лізавета Канстанцінаўна.

— Але ж нехта яшчэ жыве ў Мізгірах з Сямятычаў? — настойваю на сваім, пытаючыся ў жанчыны.



Бацькі Васіль і Сцепаніда Гумянякі

— Наведайце братоў Гумянякаў, яны таксама родам з Беласточчыны, — параіла Лізавета Андрайчук. — Аляксандр жыве ў канцы вёскі, а Іван у доме № 30.

Я падзякаваў жанчыне і пайшоў па вуліцы-вёсцы шукаць людзей, якія родам з Беласточчыны. Здалёк кінуўся ў вочы прыгожы дом, з тэлеантэнамі, вялікімі гаспадарчымі прыбудовамі і вуллямі. Гэта і быў дом № 30. Заходжу ў хату, вітаюся з гаспадаром і кажу яму, хто я і што хачу ад старога чалавека. Ён неяк нясмела захваляваўся, але сардэчна запрасіў у хату. Мы селі за стол каля цёплай печкі і пачалі гутарку.

— Спадар Іван, раскажыце пра вашых бацькоў і як вы трапілі ў Мізгіры на Слонімшчыну?

— Бацькі мае Васіль і Сцепаніда Гумянякі родам з вёскі Слохі, што недалёка ад Сямятычаў. Калі прыйшлі саветы, бацьку прызначылі старшынёй сельскага савета, а мама была хатняй гаспадыняй. У маіх бацькоў нарадзіліся 6 сыноў і адна дачка. З гэтых усіх маіх братоў у жывых засталіся толькі трое. Я і мой старэйшы брат Аляксандр жывем у Мізгірах, Мікалай жыве ў Мазыры.

— А кім вы працавалі ўсё жыццё на Слонімшчыне?

— Механізатарамі ў калгасе. Я адпрацаваў 45 гадоў трактарыстам.

— Хто з вашых братоў самы старэйшы?

— Гэта Аляксандр, ён нарадзіўся ў 1929 годзе, а я з 1935 года. А тры маладзейшыя браты — Пятро жыў у Таліне, Віктар — на Украіне, Уладзімір — у Мінску, усе яны памерлі. Памерла і сястра Яўгенія. Жывем мы — старэйшыя.

— А бацькі дзе вашы памерлі?

— Тут, у Мізгірах на Слонімшчыне.

— А ці хацелі бацькі пакідаць Слохі?

— Не. І мама вельмі сумавала па Беласточчыне, хацела туды. Але ж не да гэтага было, бо трэба было гадаваць сямёра дзяцей.

— А жонкі вашы жывыя?

— Так, жывыя. Яны пайшлі ў царкву. У вёсцы нашай ёсць добрая царква святых апосталаў Пятра і Паўла. Яна была пабудавана ў 1886 годзе з цэглы ў выглядзе крыжа па праекце архітэктара Міхайлоўскага. У 1960 годзе царкву зачынілі і бальшавікі зрабілі там склад. Але ў 1988 годзе яе зноў вярнулі Праваслаўнай царкве. Пасля рамонту яе асвяцілі і яна цяпер дзейнічае.

— Ці былі вы на Беласточчыне пасля таго, як пакінулі родныя Слохі?

— Быў некальки разоў. Там жа і па ўсёй Польшчы жыве шмат маіх сваякоў. У майго ж бацькі было таксама, як і нас, шасцёра братоў. Так што ў Польшчы ў мяне родных людзей многа.

— А польскую мову ведаеце?

— Не. Толькі беларускую.

Пасля нашай гутаркі, Іван Гумяняк пагадзіўся правесці мяне да брата Аляксандра. Па дарозе Іван Васільевіч сказаў, што брат моцна хварэе, ды слаба стаў чуць. „Ну, што ж ты хочаш, яму ўжо 82 гады", — сам сябе супакоіў вяскавец. Сапраўды, размова з Аляксандрам Гумяняком не атрымалася. Ён толькі сказаў, што бацькі не хацелі пакідаць родную вёску на Беласточчыне. Спачатку іх сям'я заехала ў Магілёўскую вобласць, але там жыць было дрэнна, таму вярнуліся ўсе ў Заходнюю Беларусь. „Прыехалі ў Мізгіры да землякоў. Вось тут і пражылі ўсё жыццё", — сказаў Аляксандр Гумяняк.

Я папрасіў братоў, каб іх сфатаграфаваць для „Нівы". Спачатку яны адмаўляліся, маўляў, мы ўжо старыя, непрыгожыя, але потым пагадзіліся. Выйшлі на ганак хаты, дзе я іх і сфатаграфаваў.

А калі развітваўся з вясковымі пенсіянерамі, Іван Васільевіч шчыра папрасіў: „Калі будзеш што пісаць пра нас і Мізгіры, абавязкова напішы, каб зрабілі нам дарогу да царквы, якая ад вёскі знаходзіцца паўтара кіламетра. Была добрая дарога, але ж яе ўзялі ў калгасе і зааралі. Цяпер людзям цяжка да царквы хадзіць. Абавязкова пра гэта напішы...".



Аляксандр і Іван Гумянякі сёння

## Цэнтр папрыгажэў

Сёлета ў Беластоку аднавілі шэраг камяніц, ратушу, будынак дзяржаўнага архіва і... горад папрыгажэў. Найбольш будынкаў аднавілі пры імпазантных вуліцах у цэнтры Беластока. Уладальнікі-гаспадары дамоў пры Рынку Касцюшкі і Ліпавай шмат інвеставалі ў выгляд будынкаў. Яны атрымалі фінансавую дапамогу гарадской управы. Рамонты выконвалі пад наглядам спецыялістаў-завахальнікаў і горадабудаўнікоў. Важна было, каб дамы мелі эстэтычны выгляд, правільную каларытнасць ды іншыя дэталі.

Цяпер як жа прыгожа выглядае будынак пры вуліцы Ліпавай 12 або камяніцы пры Рынку Касцюшкі 24, 30 і 32.

На некаторых камяніцах памалявалі адзін-два бакі або фасад на вышыню толькі другога паверха. Фінансавых сродкаў не хапіла?

Але ёсць і занядбаныя будынкі. Вельмі прыдалося б аднавіць фасад гмаху прададзенага прыватнаму пакупніку пры вул. Сянкевіча 3. Належаў ён Ваяводскаму праўленню Таварыства польска-савецкай дружбы. Абноўкі патрабуюць два будынкі пры алеі Пілсудскага. Яшчэ ў лістападзе гэтага года закончаць абнаўляць фасад высокага будынка ля скрыжавання алеі Пілсудскага і вуліцы Сянкевіча. Заканчваецца ўпрыгожванне будынка побач гмаху Паліцыі пры вул. Сянкевіча. Частку яго разабралі, але частку захавалі, тую з прыгожымі дэкаратыўнымі элементамі на сцяне ад вуліцы.

## Новыя маставыя

Сёлета ў Беластоку новыя маставыя атрымалі вуліцы Мазавецкая, Вейская, Млынавая, Кіеўская і Каліноўскага. Каштавалі яны многа грошай. У верасні г.г. новыя асфальтавыя маставыя атрымалі вуліцы Жаромскага — на адрэзку ад Пуласкага да Пагоднай, на Мешка І — ад Пястоўскай да Пяста, Цыялкоўскага — у раёне скрыжавання з вуліцай Міцкевіча ды на вулцы Міцкевіча — у раёне вуліц Звяжынецкай і Прамысловай.

Чым бліжэй да канца года, тым больш работнікаў дарожнай службы заўважаецца на вуліцах у Беластоку. Як і ў папярэднія гады, так і зараз грошы трэба выдаць яшчэ сёлета, бо інакш прападуць...

## Ухабістыя тратуары

Найлепшыя роўныя і прыгожыя тратуары ёсць у цэнтральнай частцы Беластока, між іншым на вуліцах Ліпавай, Лінярскага, Каліноўскага, Гаражавай, Складоўскай, Суражскай, Сянкевіча, Рынку Касцюшкі, Браніцкага, Міцкевіча, Бялуўны, Мальмэда. Хаця вуліца Вышынскага прылічваецца да цэнтра горада, тратуары на ёй няроўныя. Калі іх рамантавалі, дык толькі часткова, там, дзе пракладвалі драты-кабелі тэлефоннай лініі.

Ухабістыя адрэзкі сустрэнем на вул. Агародняй якраз перад касцёлам або на вул. Юравецкай побач скрыжавання з вул. Сянкевіча, тут, дзе прытрымліваюцца на прыпынку (без падстрэшка) аўтобусы гарадской камунікацыі ліній 20, 26 і 102.

На небяспечны адрэзак тратуара натрапім на скрыжаванні вуліц Васількаўскай і 27 Ліпеня, ідучы да вялікай крамы „Тэска". Шмат адрэзкаў няроўных тратуараў знаходзіцца ў густа заселенай частцы горада па вул. 27 Ліпеня, ды перш-наперш каля аўтобуснага прыпынку аўтобуса № 13 побач вуліцы Манюшкі.

**(яц)**


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)

# Зорка

для дзяцей і моладзі



## WWW.E-ZORKA.PL

У час, калі „да шчасця” патрабуем пяць хвілін, калі мінулае і пражытае чым хутчэй выкідаем з памяці, мы прапануем момант рэфлексіі. І напамінаем старую праўду: у прыродзе нішто не гіне. Асабліва, калі ў нас дачыненне з друкаваным словам. Сустрэчы „Зоркі” гэта самы каларытны і асобны раздзел у навейшай гісторыі Падляшша. Цягам апошніх семнаццаці гадоў узнікла шмат журналісцкіх, тэатральных, мастацкіх, краязнаўчых, музычных, літаратурных і этнаграфічных праектаў. Яны, у чым пераканаюцца навеадвальнікі старонкі, далі пачатак амаль усім дзеянням і праектам, ведзеным беларускімі аб'яднаннямі і арганізацыямі. Сярод удзельнікаў вы сустрэнеце вядомых людзей: журналістаў, мастакоў, музыкантаў, вучоных, фатографаў, тэатральных рэжысёраў, літаратараў, аніматараў культуры.

Вартасць архіва ў яго дэталёвасці. І ў тым, што яго пісалі і ствaралі самі ўдзельнікі. Разам з фактаграфіяй тут перададзена незабыўная атмасфера, якая спадарожнічала кожнаму выпуску.

Сустрэчы „Зоркі” былі прыдуманы рэд. Ганнай Кандрацюк-Свярубскай у 1995 годзе. Асноўнай мэтай з'яўляецца сурэдагаванне „Зоркі” (дадатка для дзяцей і моладзі ў „Ніве”) разам з дзецкамі і маладымі аўтарамі. Віртуальны архіў цягам гадоў ствараўся ў традыцыйнай, папяровай версіі вядучай Сустрэчы „Зоркі”. У бліжэйшы час мы маем намер папоўніць яго яшчэ запісамі радыёперадач і тэатральных пастановак. Просім таксама чытачоў, каб лінк пра нашы Сустрэчы „Зоркі” даслалі ўсім сваім знаёмым. Ды каб адгукнуліся на нашу прапанову.

**PS.** Гумарыстычную гісторыю, з якой пачалі лічыць Сустрэчы „Зоркі” па гадах, а не па выпусках, шукайце ў нашым архіве!

## Навагодні конкурс (1)



Прывітанне, сябры! У нас праця́г тэматычнага конкурсу, звязанага з перыядам зімы. Разам з адказамі, калі ласка, пазначце нумар конкурсу.

**1. Цягам якога перыяду нашыя продкі трымалі калядняе сенка, госця і ёлку ў хаце?**

*а) ад 1 па 14 студзеня,*

*б) ад свята Каляд па трэці дзень свята Трох Каралёў,*

*в) ад 25 снежня па 14 студзеня.*

**2. Якое культурнае мерапрыемства цягам месяца студзеня адбываецца на Падляшшы?**

*а) агляд рукадзелля з саломы,*

*б) фестываль патрыятычнай песні,*

*в) конкурс калядак.*

**3. Як называецца двор Дзеда Мароза ў Белавежскай пушчы?**

*а) Чарадзейная паляна,*

*б) Лядовы палац,*

*в) Памесце Дзеда Мароза.*

**4. Хто з вучняў пачатковых школ найвышэй ацэнены журы ў паэтычна-літаратурным конкурсе „Дэбют” за 2011 год?**

*а) Ганна Сідарук,*

*б) Аляксандра Яроцкая,*

*в) Янка Галіцкі.*

Адказы дасылайце да 17 студзеня 2012 года (найлепш па электроннай пошце на адрас „Зоркі”). Тут разыграем цікавыя ўзнагароды: беларускія кніжкі, CD і гульні.

Рашэнне калядняга конкурсу № 11: калядаванне (а), каза (в), куцця (б), Віктар Швед (а). Узнагароды — кніжку „Адукацыйныя сцежкі па ландшафтных парках Падляшша” і кашулькі з лагатыпам Радыё Рацыя — выйгралі **Міхал Стоцкі, Наталля Марчук** з Нараўкі, **Ангэліка Сцепанюк** з Бельска-Падляшскага, **Адрыян Залускі** з Нарвы. Віншуем!

ЗОРКА

***Эва САКОВІЧ**, Новае Ляўкова, Лаўрэатка III месца ў конкурсе беларускай паэзіі і прозы „Дэбют” за 2011 год.*

### Восень

*Восень гэта мая любімая пара.*
*Я люблю як лісце падае з дрэва,*
*Як трава жаўцее,*
*Як мая мама смяецца,*
*Як птушкі співаюць,*
*А буслы ў вырай адлятаюць.*
*Неба вясёлкі ўжо не малюе,*
*Але душа мая радасць чуе.*

### Не люблю

*Я не люблю як цёмна.*
*Як цёмна... усё заміраe,*
*Тады я не магу думаць*
*Пра нешта вясёлае.*
*Цёмна, панура, страшна.*
*Вецер стукае галінкай*
*У маё акно.*
*Гэта воўк вые ці душа*
*вандруе*
*Па свеце?*
*Раптам робіцца лагодна,*
*Тады толькі зоркі*
*паказваюць мне дарогу.*
*А я іду ў вялікі свет,*
*Бо мне хочацца...*
*Спаць.*

### Кветкі

*Так як на полі*
*многа кветак*
*Усе любяць сваіх дзетак.*
*Дзеткі кветачкі зрываюць,*
*Свае мамы ўспамінаюць.*
*А таму ўспамінаюць,*
*Бо вельмі моцна*
*іх кахаюць.*
*Мама заўжды нам паможа*
*І за гэта: Дзякуй Божа!*

## Галерэя ~ ~ Зоркі


Фота Ганны Кандрацюк

1. **Імя і прозвішча:** Юля Іванюк (ПШ н-р 4 у Беластоку).
2. **Твой любімы прадмет:** беларуская і польская мовы.
3. **У жыцці хачу стаць:** мадэлькай.
4. **У сяброў цаню:** гумар і калі яны мяне любяць.
5. **Не люблю:** калі сябры крыўдзяцца на мяне.
6. **Па-беларуску размаўляю:** з бабуляй Марыяй і з настаўніцай беларускай мовы.
7. **Кніжка якая мяне захапіла:** «Эн з Зялёных дахаў» Люсі Мод Мантгомеры.
8. **Падабаецца мне музыка:** гуртоў «Дубіны» і «Чыжавяне».
9. **Твае ўлюбёныя стравы:** піца.
10. **Твой любімы спосаб адпачынку:** люблю чытаць кніжкі.
11. **Калі дараста хачу жыць:** у Беластоку, у вельмі камфортным і элегантным катэджы.

# Вершы Віктара Шведа

## Перасцярога

Адам з лесу дамоў
Прынёс кошычак грыбоў.
Дасведчаная мама
Спыталася Адама:

— Грыбы табе вядомыя?
— Кажуць, што ўсе ядомыя.
Тут мамы быў адказ:
— Некаторыя толькі раз!

## Модніца

— Я, доня, прыкмячаю
З трывогай у сэрцы,
Што ты не з'ядаеш
Усяго на талерцы.

— Я хачу быць, мама,
Натуршчыцай моднай,
А не каб кілаграмы
Мяне бамбілі штодня.

# Дар'я складае песні


Дар'я Астапчук (справа)

Фота Міры ЛУКШЫ

Дар'я Астапчук вучыцца ў гімназіі ў Гарадку, у III класе. Сціплую дзяўчынку мы бачылі не раз на гмінных святах, такіх як Дні старажытнага Гарадка, — як сур'ёзна выступае з флейтай, клавішнымі ці гітарай. Ад пачатковай школы ўключаецца ў школьнае, навуковае і грамадскае жыццё, нават калі будзе гэта збор макулатуры. Ад пачатку вывучае беларускую мову. У V выпуску ваяводскага конкурсу аб вялікіх людзях Падляшскага ваяводства здабыла трэцяе месца за працу аб Анне Паўлоўскай, родам з Гарадка. Перамагала і ў прадметных конкурсах па польскай мове. У школьным самаўрадзе працуе ў мастацкай секцыі. Найбольш яе прыцягвае музыка. У XII міжнародным фестывалі песні „Супермікрафон Радыё Ярд" у дуэтах да 12 гадоў заняла разам з Аляксандрай Астапчук чацвёртае месца. Выступае ў моладзевым калектыве „Вэна" пры Гарадоцкім цэнтры культуры, які вядзе пані Маргарыта Кнот. „Вэна" выступае з польскімі і беларускімі песнямі — ад народных, да вядомай сусветнай эстрады. Дар'я піша сама музыку і тэксты.

**Міра ЛУКША**

*Літоўская народная казка*

## Чаму кот толькі пасля снедання мыецца

Заляцеў аднойчы раніцай верабей у ячмень ды дзяўбе сабе зярняткі. А кот тут як тут. Прытаўся, злаўчыўся, хоп вераб'я і павалок яго сабе на снеданне.

А верабей давай яго дакараць:

— Пане кот, вы ж далікатнага выхавання. Дзе гэта бачана, каб такі вялікі пан снедаў не памыўшыся!

Сорамна зрабілася кату! Паклаў ён вераб'я на зямлю і давай лапкай умывацца.

А вераб'ю толькі гэта і трэба было. Ён доўга не чакаў — пырх і паляцеў. Раззлаваўся кот і з таго часу зарок сабе даў: пан не пан, а мыцца ён цяпер не да снедання, а толькі пасля снедання будзе!


Фота Ганны Кандрацюк

# Музыка з кайфам

## Бабулькі вечна жывыя!

Этнографы, антраполагі, гісторыкі і мы таксама — дзеці, унукі — вельмі турбуемся за лёс нашых дзядоў, бабулек, а нават цэлых вёсак, што адыходзяць у забыццё. Ёсць аднак спосабы, каб захаваць памяць аб носьбітах культуры і традыцыі. Першы спосаб гэта, безумоўна, калядаванне. Не без прычыны пішу аб гэтым у святочны час, бо такую традыцыю даволі нескладана працягваць, тым больш што спяваць можна нават за сталом, цэлай сям'ёй і яшчэ прыемна гэта ўспамінаць. Апрача калядак ведаем шмат народных песень, якія зараз перажываюць свой рэнесанс. Дбаючы пра гэта штораз маладзейшыя выканаўцы, для якіх выклікам з'яўляецца тэхніка белага голасу, а сапраўдным урокам жыцця — сустрэча з аўтэнтычнымі выканаўцамі. Вось надзейны спосаб захаваць песні для будучыні: сустракацца, вучыцца, запісваць. Такім шляхам пайшла Юліта Харытанюк, якую штодзень можна сустрэць у Беластоцкім музеі вёскі, дзе часам ладзіць майстар-класы па традыцыі народных спеваў. Юліта проста заражае сваёй любоўю да спявання. Першым з доказаў можа быць калектыў „Полудніца" з Беластока. Гэта група дзяўчат, якія проста з цікаўнасці да культуры памежных спеваў вырашылі спяваць і атрымліваецца ім гэта выгатна.




Калі спяваеш і выступаеш, родзіцца патрэба пакінуць нешта іншым. Самы просты спосаб — запісаць альбом. Таму Юлька Харытанюк, пазнаёміўшыся з Марыяй Дэнісюк і Марыяй Якімюк з Кожына, прывезла да іх студыю гуказапісу і на месцы, у хаце, разам з прафесійным гукачом запісалі 35 песень, якія да сёння выконваюцца ў ваколіцах Кожына. Сярод іх знойдзем, між іншым, вясельныя, жніўныя, калядныя творы, расказы жанчын ды тры песні, выкананыя Юлітай і ейнымі сяброўкамі. Прытым вока цешыць графіка, якой аформлены дыск. Яна сучасная, а ўсё ж такі аўтэнтычная, каляровая, але далікатная і густоўная. Прэм'ера дыска „Песні з Кожына" прайшла, вядома, у Кожыне, у адну са снежаньскіх нядзель, пасля літургіі. Усе ўдзельнікі службы засталіся, каб супольна паспяваць, уцешыць вуха і вока новай прадукцыяй — выдатным калядным падарункам. Віншуем Юліту і яе музы з новым запісам... на вечнасць!

**i_basovka@o2.pl**

# Польска-беларуская крыжаванка № 1

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 49:**

Знак, бал, бар, карта, шанс, экскурсія, моц, кот, кулёк, дата, Алік, нос, нос, патрон, сто. Збан, эму, мат, школа, касцёл, банк, кіно, барсук, кон, гарт, род, стан, торт, кураня, Ас.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Вераніка Пташынская, Каміля Несцярук з Дубін, Вікторыя Лукашук з Нарвы, Карнэлія Барэчка, Стэфан Харкевіч, Эва Сакові, Альжбета Харкевіч з Нараўкі, Магдаліна Навіцкая, Вікторыя Артэмюк, Юлія Ваўрасюк, Дарыя Несцярук з Бельска-Падляшскага.** Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | No! / Stół | Koń | | Sen / Sanki | Śnieżynka | |
| | Dzwon | Ukos / Wrzątek | | | | | | | |
| | Ząb / Łapa | | Miecz | | | | | Tora | |
| Cytryna | | | | | | Nóż / Rodzina | | | |
| Pomarańcze | | | | | | | | | |
| Piec | | | | Jak | | | | Jak | |
| | | | | | | | Jak | | |
| Fan | | | Klamka | | | | | | |



## Калядныя пажаданні

*Зорка ясная ўзышла*
*сярод многіх на небе,*
*вестку радасну людзям*
*прынясла*
*аб нарадзінах Ісуса Хрыста.*
*У сэрцах нашых радасць плыве,*
*нябеснае рэха святыя песні нясе*
*ў кожны дом і сям'ю,*
*каб напомніць людзям*
*сустракаць каляду.*
*Каб у словах песень калядных*
*Богу паклон даць,*
*каб усе разам, грамадна*
*хорам маглі*
*„Ціхую ноч"*
*і „Новую раду" спяваць.*
*Сёння сядуць за стол*
*у згодзе, паяднанні,*
*каб супольна весяліцца,*
*прасфорай дзяліцца,*
*у поўнач у цэркаўку пайсці,*
*памаліцца.*
*Складзі словы пажаданняў*
*– поспехаў,*
*здароўя ў далейшым жыцці*
*і кожнаму святачка дачакаць*
*у будучыні.*
*Будзь і ты, мой прыяцель,*
*гатоў сёння прабачыць другому,*
*Бог жа ўсім прабачае*
*і ў аўчарню сваю*
*з радасцю ўсіх прымае.*

***Ніна БРУЧКО***

## Пажаданні

*Пажаданні ў Новым годзе*
*ўсяму я шлю народу,*
*што на свеце пражывае:*
*няхай здароўе і шчасце мае.*
*Каб шчасліва ўсім жылося,*
*радасць мелі на душы,*
*чаго ў Госпада папросяць,*
*каб дабро ўсім тварыў.*
*А за гэта, братцы мілы,*
*каб паклоны ўсе адбілі,*
*пакланіліс нізка Богу,*
*каб навёў усіх на дарогу.*
*Каб мы войнаў не спазналі,*
*пра бяду каб забывалі,*
*у дастатку жылі хаце –*
*буду вам таго жадаці!*

***Мікалай ЛУК'ЯНЮК***



■ Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Вёскі Бельскага лясніцтва ў часах Браніцкіх



■ Дарафей Фіёнік

**Ужо здаўна завязалася супрацоўніцтва паміж Музеем і асяродкам беларускай культуры ў Гайнаўцы і Музеем малой айчыны ў Студзіводах. Яго плёнам сталі супольныя ініцыятывы, напрыклад, гастролі калектываў з Беларусі, якія прымалі ўдзел у фестывалях „Там по маёвуй росі" і „Олень по бору ходіт". На 8 снежня ў Беларускі музей у Гайнаўку запрошаны быў старшыня Аб'яднання „Музей малой айчыны", фалькларыст, этнограф і гісторык Дарафей Фіёнік, які выступіў з дакладам „Вёскі Бельскага лясніцтва ў часах Браніцкіх". На спатканне не прыйшлі перш за ўсё аматары мясцовай гісторыі. Мала хто з сабраных ведаў, напрыклад, што толькі ў міжваенны перыяд Гайнаўцы быў прададзены лес, які быў распаложаны побач горада, але належаў да Бельска-Падляшскага. Менавіта на гэтай тэрыторыі пачаў узнікаць гайнаўскі жыллёвы квартал, які цяпер называецца Старая Юдзянка. Абіходнае, нават і цяперашняе названне Пасечнікаў, Мескі лес, выводзіцца з мінулага, калі Пасечнікі і наваколле ўваходзілі ў адміністрацыйныя межы Бельска-Падляшскага.**

— Род Браніцкіх спрычыніўся перш за ўсё да развіцця Беластока, які стаў цэнтрам нашага рэгіёна. Развіццё адбывалася коштам багатых тэрыторый Бельскага лясніцтва і Бельскага старства, якія былі пад панаваннем роду Браніцкіх, бо вёскі вакол Беластока наогул былі беднымі. Калі б некаторыя падзеі і працэсы пайшлі крыху інакш, цэнтрам нашага рэгіёна мог бы стаць Бельск-Падляшскі, які для гэтага меў усе ўмовы, а так сілы і энергія Бельска ішлі на развіццё Беластока. Аднак адначасна ў XVIII стагоддзі Ян Клеменс Браніцкі, а перш за ўсё Ізабэла Браніцкая, якая вельмі любіла Бельск, спрычыніліся таксама да развіцця Бельскага лясніцтва. Можна сказаць, што нашы людзі ў нейкай ступені будавалі славуты палац Браніцкіх у Беластоку, бо ён узводзіўся з цэглы, якую выраблялі ў распаложаных побач Чыжоў Лядах, сядзібе Бельскага лясніцтва, — гаварыў у час спаткання Дарафей Фіёнік. — Ян Клеменс Браніцкі быў жа сапернікам Станіслава Панятоўскага ў змаганні за каралеўскі трон, а пасля, ужо ў старэйшым узросце, ажаніўся з сястрой караля Станіслава Панятоўскага — Ізабэлай, якая ажно да смерці ў 1808 годзе была бельскай старасцінай і спрычынілася да развіцця нашага горада.

Дарафей Фіёнік расказаў як жыхары падгайнаўскіх каралеўскіх вёсак судзіліся з Браніцкімі за іх збіццё, недапушчэнне да з'езда і накладанне на сялян кайданоў, а таксама за іх прыніжанне і выйгравалі судовыя працэсы. Пад адным з судовых позваў ад імя жыхароў Бельскага лясніцтва падпісаліся сяляне са Старога Беразова, Махнатага, Новага Беразова і іншых сёл. Прыводзіў ён тадышнія прозвішчы, якія і цяпер можна спаткаць у нашых вёсках, напрыклад, Швед ці Крук.

— Пачынаючы з канца XVIII стагоддзя ў дакументах выступае прозвішча Турык са Старога Беразова. Гэты слаўны род выступаў ахвяравальнікам, які дапамагаў мясцовай царкве, — сказаў Дарафей Фіёнік. — У Старым Беразове зараз таксама жывуць людзі з гэтым прозвішчам. Судовую справу з Браніцкімі выйгралі таксама стральцы з Чыжоў, ужо тады вялікай вёскі, якія скардзіліся, што зачаста высылаюць іх з падводамі ездзіць у Варшаву і Гродна. Суд вызваліў чыжоўскіх гаспадароў ад гэтай павіннасці.

Пасля смерці Яна Клеменса Браніцкага бельскай старасцінай стала Ізабэла Браніцкая. Дарафей Фіёнік мяркуе, што наогул была яна добрай старасцінай. Пры яе панаванні ў Бельску былі збудаваны ратуша, кармеліцкі і фарны касцёлы. Была яна таксама фундаткай царкваў у Новым Беразове і Ласінцы, дзе была ўзведзена драўляная царква, перавезеная туды з Новага Беразова. Тады была ўзведзена царква і ў Орлі, пераважна з драўніны з млына ў Трывежы. Раней Ян Клеменс Браніцкі фундаваў царквы ў Пасынках. Дарафей Фіёнік лічыць, што невыпадкова цэркы ў Новым Беразове, Пасынках і Орлі былі збудаваны ў гонар Іаана Багаслова, бо ж муж Ізабэлы называўся Ян. Бельскае лясніцтва пры панаванні Браніцкіх было падзеленае на тры ключы — Лядскі, Махнацкі і Трывежскі.



— Браніцкія адміністравалі фальваркамі ў Лядах, Махнатым і Трывежы, якія працавалі на патрэбы роду Браніцкіх і выпрацоўвалі даходы ў дзяржаўны бюджэт, — сказаў дакладчык. — У Бельскім лясніцтве былі 973 дымы (гаспадаркі) і калі перамножыць іх праз 5 асоб, бо мяркуецца, што ў XVIII стагоддзі столькі ў сярэднім жыло людзей у адной гаспадарцы, то атрымаецца, што ў Бельскім лясніцтве жыло каля 5 тысяч чалавек. Толькі ў адных Чыжах, якія былі падзелены на багацейшую стралецкую частку сяла і бяднейшую — асочніцкую, было тады ажно 160 дымоў. Яшчэ ў XVIII стагоддзі абавязкам сялян была праца на палях і па-за імі на патрэбы фальваркаў. Мужчыны і жанчыны мусілі працаваць у фальварках па 3 дні ў тыдзень і дадаткова адпрацаваць па 12 дзён у год абавязковай талакі ў час жніва ці іншых надзвычайных патрэб. Напрыклад, у Лядах апрача апрацоўкі зямлі людзі працавалі ў ткацкім варштаце, а палатно адсюль сплаўлялася нават у Гданьск. Выраблялі таксама цэглу. У Пасечніках разгарнулася вялікая вытворчасць мёду і ад „пасек" хутчэй за ўсё ўзнікла назва вёскі. У Трывежы выраблялі гарэлку, якая прадавалася, між іншым, на тэрыторыі Бельскага лясніцтва ў 38 корчмах і 25 заездах, дзе можна было і пераначаваць.

Пры панаванні Браніцкіх у Бельскім лясніцтве ў сярэднім на 1 вёску прыпадала 1 карчма, дзе, на жаль, пастаянна распіваліся людзі.

— З часам фальваркі пачалі траціць сваё значэнне, пачалі ліквідавацца яшчэ ў першай палове XIX стагоддзя. Тады адбывалася парцэляцыя фальваркачнай зямлі, а сяляне самі сталі выпрацоўваць даходы для дзяржавы. Канчаткова каралеўскія фальваркі зніклі пасля адмены прыгоннага права царом Аляксандрам II у 1861 годзе, — гаварыў Дарафей Фіёнік. — Да 1860-х гадоў дакументы састаўляліся ў Бельскім лясніцтве на польскай мове, а пасля — на расійскай.

Сабраныя паглядзелі таксама фільм, які быў зняты ў час сёлетняга фестывалю „Там по маёвуй росі", калі яго ўдзельнікі, пачынаючы са Старога Беразова, прайшлі карагодам па вёсках, якія ў мінулым належалі да Бельскага лясніцтва.

— Дзякуючы такім людзям як Дарафей Фіёнік нашая нацыянальная тоеснасць не знікне і будзе жыць беларуская свядомасць, — сказала бібліятэкарка музея Анджаліна Масальская, якая была галоўным арганізатарам спаткання ў рамках праекта „Кірыліцай пісанае".

— Я цікаўлюся гісторыяй і больш зарыентаваны ў гістарычных падзеях датычных Белавежскай пушчы і яе наваколля. Прыйшоў я на спатканне з Дарафеем Фіёнікам, каб больш даведацца пра мінулае Бельскага лясніцтва. Я задаволены пачутым, бо яно тычыцца Пасечнікаў — вёскі, з якой выводзіцца мая жонка, — сказаў гайнаўскі фатограф Уладзіслаў Завадскі.

Пра гістарычныя падзеі дапыталіся Дарафея Фіёніка, між іншым, былы настаўнік беларускай мовы ў Гайнаўскім белліцэі Васіль Сакоўскі, настаяцель Дубіцкага прыхода протаіерэй Славамір Аўксенцюк (відаць іх на здымку).

# Помнікі яўрэйскай культуры ў Орлі

Тэкст і фота
Міхала МІНЦЭВІЧА

**Сінагога ў Орлі 21 снежня 2010 года займела свайго ўладальніка пасля дзесяцігадовага пераводу ўласнасці. Зараз аб'ект належыць Фонду аховы яўрэйскай спадчыны ў Варшаве, а яго карыстальнікам з'яўляецца Гмінная ўправа ў Орлі. Аднак становішча помнікаў яўрэйскай культуры ў Орлі не памянялася, усё застаецца па-старому, а прагрэс відаць адно ў далейшай дэградацыі, да таго ж у жніўні 2011 года будынак сінагогі быў апаганены расістамі.**

Звяз яўрэйскіх рэлігійных абшчын хадайнічаў (беспаспяхова) за многімі іншымі ўчасткамі ў Орлі, аднак не было на гэта згоды арлянскай Гміннай управы. Сучасныя яўрэі не ведаюць мясцовай гісторыі, яны шукалі ніколі не існуючай тут сінагогі і прысваення сабе ўчастка ад яе.

Свайго ўласніка і апекуна чакаюць жыдоўскія могілкі, аднак яўрэі імі не надта зацікаўлены, бо справа яго перадачы доўжыцца ад 2 верасня 2002 года і Гмінная ўправа хацела б ім тую спадчыну перадаць.

## Яўрэі былі здаўна

Яўрэі паявіліся ў Орлі ў 1578 годзе. Цэнтрам іхняга жыцця быў рынак і наваколле сінагогі. На працягу амаль 400-гадовага пражывання ў Орлі яны больш за палову таго перыяду дамінавалі ў мястэчку колькасна, гаспадарча і культурна. Яны былі рухавіком развіцця Орлі і часта дапамагалі сваім хрысціянскім суседзям.

Пасля 17 верасня 1939 года ў Орлі пражывала 1450 яўрэяў, а ў пачатку нямецкай акупацыі 1941 года нават больш дзвюх тысяч; складалі яны за 70% ад агульнага ліку жыхароў мястэчка. Пад канец чэрвеня 1941 года яўрэяў аддзялілі ад іншых месцачкоўцаў, заключаючы іх у двух гетах у рынку. Яны былі вельмі дружным грамадствам і некаторыя з іх выбіралі гета заміж свабоды, забіралі туды з сабою нават дзяцей з мяшаных сужонстваў супраць волі іх іншаверных мужоў.

Мураваная сінагога ў Орлі была ўзведзена ў XVI стагоддзі, спярша як кальвінскі храм (да 1754 года), некалькі разоў перабудоўвалася і разбудоўвалася. Былі ў ёй выдзелены асобныя залы для жанчын (бабінцы) — спачатку былі яны драўляныя, пасля, у палове XIX стагоддзя дабудавалі мураваныя (пасля апошняй вайны іх знеслі, але ў 1980-х зноў дабудавалі). У канструкцыі сінагогі пераплятаюцца рэнесансныя архітэктурныя ўзоры (прамавугольная зала, вузкія ўваходы, адсутнасць акон на першым паверсе) з элементамі позняга барока ўнутры храма. Арлянская сінагога мела вельмі багаты інтэр'ер, а навонкі былі яшчэ дзве меншыя драўляныя бажніцы, дом рабіна і лазня (мыква).

Ад вялікага пажару Орлі 18 мая 1938 года, які знішчыў тры чвэрці мястэчка, вялікая сінагога ўжо не вярнулася да свайго ранейшага хараства, хаця яе хутка адбудавалі (згарэлі дах і часткова сцены ды дзве драўляныя бажніцы). Чарговыя знішчэнні прынесла вайна і акупацыя.

## Сінагога пасля 1945 года

Пасля 1945 года будынак занепадаў і да паловы 2006 года выконваў ролю склада, спярша трымалі ў ім м.інш. вапну, пазней — саламяныя каробкі і лясныя дары, а ў апошніх гадах сцёкавыя трубы, крэслы на патрэбы фэстаў ды іншыя прадметы не звязаныя з аб'ектам.

У 1980-х гадах на сродкі Ваяводскага фонду культуры і Ваяводскага рэстаўратара помнікаў быў праведзены капітальны рамонт даху, фасада і перакрыцця, устаноўлена цэнтральнае абаграванне, адбудаваны бакавыя бабінцы, устаноўлены медныя вадасцёкавыя трубы ды аконная і дзвярная сталярка. Не завяршыўшы рамонту, разабралі рыштаванні. Частковыя рамонты не спынілі працэсу руйнавання.

У выніку майго хадайніцтва Орлю некалькі разоў наведвалі працаўнікі Ваяводскай службы аховы помнікаў і Бельскага старостава ды яўрэйскай рэлігійнай абшчыны з Варшавы, пасля чаго гмінныя ўлада не згаджалася на аддачу апошняга, вымашчанага, пляца, бо ён з'яўляецца выгадным месцам для ладжання масавых мерапрыемстваў і па ім адбываецца доступ у будынак дома культуры і пастарунак паліцыі. 24 мая 2010 года Рэгуляцыйная камісія передала хадайнікам адно сінагогу з абгароджаным вакол яе пляцом. 21 снежня 2010 года абшчына перадала арлянскую сінагогу Фонду аховы яўрэйскай спадчыны ў Варшаве, а 1 лютага 2011 года Гмінная ўправа ў Орлі падпісала з фондам дамову пра прынцыпы карыстання аб'ектам.





На яўрэйскіх могілках у Орлі 24 лістапада 1998 года. Здымае брыгада тэлеканала „Nasza TV" з Варшавы

ды спынілі вытворчасць бетонных матэрыялаў на пляцы перад сінагогай і кампенсавалі раскрадзеныя сцёкавыя трубы. У наступныя два гады была завершана агароджа, а за сродкі з Фонду вечнай памяці ў Варшаве — зашклёна аконная сталярка. За агароджай гміна паклала брусчатую маставую, каб мець сухі пляц для масавых мерапрыемстваў.

Будынак сінагогі, аднак, надалей служыў складам, чарговы раз зладзеі раскралі медныя сцёкавыя трубы, пашкоджаная чарапіца не захоўвала сцен ад пранікання сырасці. Нішчэў карніз франтона, бо зараз пасля рамонту вецер сарваў кавалак бляхі.

У 2006 годзе гміна пачала згортваць склад з сінагогі. 25 студзеня 2007 года ваяводскі захавальнік помнікаў дазволіў Гміннай управе праводзіць засцерагальныя меры ўнутры сінагогі; з таго часу ў будынку праводзяцца некаторыя мерапрыемствы.

## Рэгуляцыя яўрэйскай маёмасці — сінагога

2 студзеня 2001 года яўрэйская рэлігійная абшчына ў Варшаве выступіла ў Рэгуляцыйную камісію па справах яўрэйскай маёмасці з заяўкай на арлянскую сінагогу, і 7 лютага камісія запусціла адпаведны рэгуляцыйны працэс; абшчына патрабавала сінагогу і абгароджаны вакол яе пляц ды чарговы пляц перад аб'ектам, вымашчаны брусчаткай. Працэс доўжыўся дзесяць гадоў, бо гмі-

У ліпені і жніўні 2011 года Управа гміны за сродкі фонду выканала некаторыя рамонтныя працы навонкі сінагогі — была заменена пашкоджаная чарапіца, былі скамплектаваны сцёкавыя трубы, а з карніза над уваходам былі зняты паслабленыя цэглы.

## Старыя могілкі

10 мая 2002 года ў Рэгуляцыйную камісію паступіла заяўка яўрэйскай рэлігійнай абшчыны на нерухомасць, дзе калісь былі жыдоўскія г.зв. старыя могілкі; участак гэты да вайны быў уласнасцю яўрэйскай абшчыны, а пасля вайны быў нацыяналізаваны. Падчас нямецкай акупацыі каменныя мацэвы былі скарыстаны для пабудовы дарогі з Орлі ў напрамку Бельска, з іншых людзі выраблялі вастрылкі. Пасля немцы загадалі месца могілак заараць і пасеяць пшаніцу. Быў багаты ўраджай, але сабралі яго ўжо саветы. Пасля вайны ўчастак быў падзелены на дзевяць меншых для насельніцтва і людзі пабудавалі там сабе дамы і гаспадарчыя будынкі. Адзін з такіх участкаў узяла гміна і цяпер на ім пажарнае дэпо, а побач яго воданапорная станцыя. 27 жніўня 2007 года Рэгуляцыйная камісія з-за адсутнасці магчымасці выдзялення ўчастка справу спыніла.

## Адпачынковы парк

Яўрэі разлічвалі таксама атрымаць адпачынковы парк у цэнтры Орлі, бо паводле іхняга меркавання да вайны была там сінагога. Аднак праўда такая, што сінагогі там не было, было затое шмат жыдоўскіх крамаў, пякарня і будынак пажарнага дэпо. Гміна адмоўна паставілася да складзенай яўрэйскай абшчынай заяўкі. Рэгуляцыйная камісія, дапытаўшы семярых сведкаў, заключыла, што сінагогі на згаданай тэрыторыі не было і адхіліла хадайніцтва, бо перадачы падлягаюць толькі тыя ўчасткі, на якіх да вайны былі сінагогі або могілкі.

## Новыя могілкі

Зусім дзіўнымі паказваюцца адносіны яўрэйскай абшчыны да існуючых яўрэйскіх могілак, г.зв. новых, што распалажаны побач дарогі ў Шчыты. Яны неабгароджаны і зусім запушчаны ды, папраўдзе, ніхто за іх не хвалюецца. Гэты кіркут не занесены ў спіс помнікаў мінуўшчыны. На сёння захавалася там 36 каменных намагільнікаў. Яны перакуленыя, урастаюць у зямлю, знікаюць у траве і зеллі. Некалькі гадоў таму пасвіліся там коні, выконваючы ролю касілак. Цяпер намагільнікі зараслі і амаль невідочныя, але гэта яшчэ не ўсё. Дзве акраіны могільніка прыаралі ўласнікі мяжуючых палеткаў. Адзін з іх садзіў на „сваёй" палосцы бульбу, а пасля пасадзіў бярэзіну, другі ездзіць трактарам, паўстталі дзве дзікія дарогі. Да могілак прылягае гмінная пяціметровая дарога, але яна не трасіравана. Гэтую праблему я прадстаўляў войту, а ён спаслаўся на нястачу грошай і на тое, што гэтай дарогай мала хто ездзіць і няма ўпэўненасці ці пасля трасіравання людзі перастануць раз'язджаць могілкі. А там ужо глыбокія каляіны...

Згодна закону ад 20 лютага 1997 года аб адносінах дзяржавы да яўрэйскіх рэлігійных абшчын, рэгуляцыйныя заяўкі прымаліся на працягу пяці гадоў ад яго ўступлення ў сілу. Яўрэі пра гэта ведалі і таму склалі аж столькі заявак. Думаю, што калі б не гэтыя тэрміны, то яны і да сёння не цікавіліся б сваёй сінагогай. А кіркут з пахаванымі там супляменнікамі, як відаць, не мае істотнага значэння.

## Расісцкая вылазка

Ноччу з 9 на 10 жніўня 2011 года ў цэнтры Орлі быў учынены варварскі акт. На будынку сінагогі і ў яе суседстве нехта намаляваў чырвонай фарбай фашысцкія сімвалы і зняважлівыя лозунгі. Мясцовыя жыхары мяркуюць, што ўчыніў гэта нехта звонку, бо ў Орлі сужыццё з яўрэйскімі суседзямі складвалася беспраблемна. Павятовы камендант паліцыі ў Бельску-Падляшскім на сесіі арлянскай Гміннай рады паведаміў, што за сінагогай вядзецца нагляд, а наконт жнівеньскага інцыдэнту органы вядуць расследаванне.

* * *

Я ўжо амаль дваццаць гадоў займаюся яўрэйскім мінулым Орлі. Праводзіў я пра гэта размовы з прамінулымі ўжо ў большасці сведкамі яўрэйскага тут прабывання, запісваючы іх успаміны. Зацікаўленне жыццём яўрэяў у санацыйны перыяд не падае. Штогод наведваюць мяне госці з Польшчы, галоўным чынам журналісты і студэнты. У рэалізацыі рэпартажаў карысталіся яны і маімі магнітафоннымі запісамі размоў з найстарэйшымі жыхарамі мястэчка. Наша супольная гісторыя, невядомая людзям звонку, выклікае ў іх зацікаўленне і здзіўленне.

Аўтар з'яўляецца сябрам Грамадскага камітэта аховы могілак і памятак яўрэйскай культуры ў Польшчы.

Іаанна ЧАБАН

# Каля каго патрэшся, ад таго і набярэшся



*Пошукі сапраўднага гэта галоўная тэма і сэнс маіх будняў. Дзеля пошукаў я заснавала культурнае таварыства і свой маленькі вакальны калектыў.*

*Яшчэ два гады таму мне здавалася, што ўсё даволі зразумела, гарманічна і прадказальна. Выпадковыя сітуацыі апошніх дзён стварылі эфект вострай шокавай тэрапіі. Хаця яна вострая і шокавая, усё-такі тэрапія, за якую я вельмі ўдзячная Богу. Няма сумненняў, светам кіруюць грошы. Яны ўплываюць на фармаванне масавага менталітэту і светапогляду. Людзі дзеля сацыяльнага мінімуму гатовы аддаць сваю душу, шмат прытым не задумваючыся. Гэта зусім зразумела, ніхто на голад і холад выстаўляць сябе і сваіх блізкіх не будзе, хіба што шалёны. Папраўдзе чалавек не свіння і да ўсяго здольны прывыкнуць. Тое што спачатку мо і здаецца падазроным, не зусім правільным, калі часта паўтараецца, то паступова пераходзіць у норму. І так запыняемся ў свеце сучасных, шырока распаўсюджаных каштоўнасцей і правіл, дэталёва ўпраўляючых нашай душой і целам.*

*Здаецца, што я таксама, як усе астатнія, ішла галоўнай і адзінай дарогай прагрэсу, стараючыся не адставаць, не цягнуцца праз жыццё недзе ў хвасце. Мо калі б не мая працяглая паездка ў Лондан, у якой я наглыталася сур'ёзна, на поўныя лёгкія, імпануючай мне іхняй рэчаіснасці, — то ўсё было б „як у людзей”.*

*Кажуць, што ёсць два напрамкі выхаду з крызісных, шокавых падзей: або яны цябе заб'юць, або выратуюць.*

*Я неяк не змагла пакарыстацца гэтым апошнім, больш аптымістычным варыянтам.*

*Разбэшчанасць, упадак у самую нізкую сацыяльную сферу грамадскага ізгоя, па мерках звычайнага спажыўца хлеба, неспадзявана накіравалі мяне ў бок вечнага святла. Мая агульная неадобраная дзейнасць пачала адкрываць новыя магчымасці, знаёмствы. Апрача дзіўных персон з воўчым або абыякавым позіркам, якія ўпарта рашылі не здароўкацца са мною, прыкмячаю ў сваім наваколлі штораз больш сапраўдных, каштоўных людзей. Паяўляюцца таксама сур'ёзныя прычыны для частых з імі сустрэч, што выдатна ўплывае на мой асабісты рост. Тое, што яшчэ некалькі месяцаў таму выглядала катастрафічна, цяпер здаецца быць увогуле малаважным. Сепарацыя ад усіх „правільных”, якая ўзнікла не па маім жаданні, аказалася дабрадзейнай. Людзі, якія запрашаюць мяне ў сваю хату, адзначаючы вялікай адкрытасцю, вышэйшым узроўнем духоўнага і інтэлектуальнага жыцця. Ад іх найчасцей залежыць культурнае і маральнае існаванне ўсёй вёскі, яны бяруць на сябе адказнасць за захаванне і працяг родных мясцовых традыцый, звычаяў, клапоцяцца пра таксама пажылых суседзяў, прымаюць людзей са свету. Нашы супольныя бяседы часта кранаюць і вельмі асабістых тэм, што спрыяе паўстанню духоўнай блізкасці. Мы проста разумеем адны адных, як кажуць — вяшчаем на адной хвалі. Хаця наша знаёмства, нават па маіх узроставых мерках, кароткае, ды яно здаецца быць адвечным, лучаць нас супольныя карані: мова, традыцыі, лёс. Адзіным недахопам гэтай сітуацыі з'яўляецца позняя пара жыцця маіх новых незвычайных знаёмцаў. Гэты факт вельмі балючы, ён выстаўляе мяне кожны раз на новую страту, кожная смерць гэта рана, якая доўга зажывае, а іх штораз больш. Я стала асвойвацца і сапернічаць са смерцю. Жыву са свядомасцю, што чалавек, які чакае майго чарговага візіту, рыхтуецца да яго з цяжкасцю, прыпамінаючы сабе даўнія гісторыі, песні, можа ў любую хвіліну адысці. А мне ж трэба паспець, часу штораз менш, жахліва мала. Пастаянная прысутнасць з'явы беззваротнай страты ў маім выпадку пазітыўна ўплывае на будаванне правільнай іерархіі жыццёвых каштоўнасцей, абвастрае пачуццё ўдзячнасці за кожны дараваны дзень, хвіліну, і матывіруе да як найпаўнейшага пакарыстання імі. Хтось калісь казаў: няма людзей незаменных, і я да нядаўна ў гэта верыла. У выпадку майго бліжэйшага наваколля тая пагаворка больш не спраўджваецца. Іх ужо ніколі ніхто не заменіць. На маіх вачах адыходзяць сапраўдныя воблікі нашых вёсак, апошнія носьбіты непаўторнай і штораз менш вядомай роднай культуры. Наша вёска набірае выключна абстрактнага вымярэння. Яе ўжо амаль не засталося ў жывых у адчувальным, матэрыяльным сэнсе. Трэба, усё ж, пагадзіцца з рэальнасцю. Ёсць справы, якія нас перарастаюць, на якія не маем уплыву. Так што па маіх магчымасцях — гэта адбудова і распаўсюджванне як найпаўнейшай, сапраўднай карціны не такой далёкай, але ўжо гісторыі, наваколля, малой айчыны. Маім цудоўным суайчыннікам-субяседнікам належацца словы вялікай падзякі і ўдзячнасці. Яны здолелі адамкнуць свае сэрцы, зацікавіць сваімі незвычайнымі гісторыямі, змаглі перадаць шмат каштоўных ведаў і поглядаў, а перш за ўсё адкрыць так дэталёва і сістэмна вымазваную праўду. Так склалася, што папулярызацыя гэтых каштоўнасцей у большасці спачывае на мне. Гэта вельмі важная і патрэбная задача, якая ў будучыні можа спрычыніцца да выратавання хаця некалькіх загубленых душ, што блукаюць па свеце не ведаючы хто яны і куды ім трапіць.*




Кнігадрукаванне для беларусаў занятак даўно вядомы і цікавы. Магчыма, сталася так ад часоў Францыска Скарыны — першадрукара ўсходніх славян. Цяпер у Беларусі выдаюцца тысячы кніг самымі разнастайнымі накладамі. Праўда, агромністая большасць іх не на беларускай мове, але ўсё адно яны фіксуюцца ў Нацыянальнай кніжнай палаце. Адзін з асобнікаў кожнай такой кнігі мусіць быць перададзены ў палату на вечнае захоўванне.

Каб дэтальна пазнаёміцца з тым, што ўяўляе з сябе Нацыянальная кніжная палата Беларусі, варта зайсці на яе сайт. Ён месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://natbook.org.by.**

Нельга сказаць, што сайт аздоблены мноствам малюнкаў ці мультымедыйных дадаткаў. З большага ён падобны на тэхнічны сайт, які часова створаны і ў хуткім часе мусіць быць перароблены нейкім чынам у штосьці больш прывабнае. Але, па ўсім відаць, такіх мэт уладальнікі сайта пакуль перад сабой не ставяць, і цягнецца так ад 2003 года — часу з'яўлення партала.

Адметна, што з'яўляючыся сайтам дзяржаўнай установы, сайт кніжнай палаты мае беларускую версію. У цяперашні час гэта даволі рэдкая з'ява. Таксама там ёсць магчымасць пазнаёміцца з яго зместам па-руску і па-англійску.

Будова сайта традыцыйная, але крыху нечаканая. На галоўнай старонцы з левага боку выяўлення месяцца выйсці на рубрыкі сайта, а з правага — невялікая прэзентацыя Нацыянальнай кніжнай палаты і зноў тыя ж самыя выйсці. Здаецца, нешта не ўлічылі стваральнікі партала, калі дапусцілі такі дубляж.

„Нацыянальны інфармацыйна-бібліяграфічны цэнтр. Цэнтр дзяржаўнай статыстычнай інфармацыі ў галіне кнігавыдання Беларусі. Нацыянальны архіў друкаваных выданняў, якія былі выдадзены на тэрыторыі Беларусі з пачатку XX стагоддзя па сённяшні дзень. Інфармацыйна-аналітычны цэнтр і цэнтр стандартызацыі ў галіне выдавецкай справы, паліграфіі і бібліяграфіі”, — так прэзентуецца Нацыянальная кніжная палата Беларусі, якая вядзе сваю гісторыю ад 1924 года. Больш падрабязна аб галоўных для палаты датах пішацца на старонцы „Аб Кніжнай палаце Беларусі”. Дарэчы, сваю цяперашнюю назву палата носіць ад 1992 года.

На данай старонцы можна таксама пазнаёміцца з усімі функцыямі, што выконвае палата. Сярод іх — атрыманне бясплатных абавязковых экземпляраў усіх відаў друкаваных выданняў, якія выйшлі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, дзяржаўная бібліяграфічная рэгістрацыя ўсёй выдавецкай прадукцыі, статыстычны ўлік усіх відаў друкаванай прадукцыі і выпуск штогодніка „Друк Беларусі”, арганізацыя і захоўванне ўсёй друкаванай прадукцыі з пачатку XX стагоддзя ў архівасховішчы — Фондзе архіва друку, кантроль за выкананнем патрабаванняў нарматыўнай дакументацыі ў галіне выдавецкай дзейнасці, міжнародная дзейнасць, звязаная з выкананнем функцый Нацыянальнага агенцтва па стандартнай нумарацыі кніг (ISBN).

У рубрыцы „Нацыянальная бібліяграфія” месяцца так званыя летапісы разнастайных выданняў, сістэматызаваных па тэмах альбо відах. Так, існуе „Кніжны летапіс”, „Летапіс часопісных артыкулаў”, „Летапіс газетных артыкулаў”, „Летапіс выяўленых выданняў” і мноства іншых, па якіх можна адсачыць усю выдавецкую дзейнасць у Беларусі.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

# Скарбы БЕЛАРУСІ

**Жалудоцкі транзіт**

Маім другім мястэчкам у жыцці стаў Жалудок — транзітны пункт па дарозе ў кірунку Бяліцы Лідскага раёна, куды мы ездзілі разам з бабуляй да цёткі. Пазней, ужо юнаком, даводзілася праязджаць той жа трасай на ровары. У тыя часы абмінуць Жалудок было немагчыма. Зараз жа зроблена аб'язная асфальтоўка, але вельмі добра, што захаваўся кавалак старой брукаванкі. Дарогі да і з Жалудка досыць цікавыя — у бок Ражанкі каля Лапатоў можна ўбачыць сучасны геадэзічны знак на месцы пункту знакамітай Дугі Струве. У іншы бок на сумежжы Шчучынскага і Лідскага раёнаў пры дарозе можна паглядзець сціплую, але досыць старадаўнюю царкву са званіцай. Адносіцца яна ні то да Агароднікаў, ні то да Дзікушак, але ад абедзвюх вёсак досыць аддалена. З дзяцінства памятаю гэты храм без даху. У наш час царква адноўлена і дзеіць. Яшчэ ў адзін бок Жалудок заканчваецца прылеглай вёскай з рамантычнай назвай Фарны Канец.

Жалудок мае досыць багатую гісторыю. Ён вядомы з другой паловы XV ст. як вялікакняскае ўладанне, у XVI-XVII стст. належаў Лацкім, Сапегам, Францкевічам, у XVIII — першай чвэрці XIX стст. уласнасць Тызенгаўзаў, з 1830-х — уладанне Урускіх, з пачатку XX ст. — Святаполк-Чацвярцінскіх. А ў лютым-сакавіку 1706 г. тут была галоўная штабная кватэра шведскага караля Карла XII — ішла жорсткая Паўночная вайна, для якой беларуская зямля была палігонам. Заваёўнікі часта праходзілі праз мясціну — вядомы гістарычны факт як у 1506 г. у час рабаўніцкага нападу татары спалілі мясцовы касцёл. У першую сусветную вайну тут гаспадарылі кайзераўцы, не абміналі Жалудок і пазнейшыя прыхадні. У другую сусветную гітлераўскія карнікі расстралялі тут ажно 2 тысячы чалавек. У савецкі час на тэрыторыі колішняй сядзібы князёў Чацвярцінскіх была размешчана вайсковая частка, прычым досыць сакрэтная. Частка і „абмежаваны кантынгент” вайскоўцаў даўно выехалі, а аб'ект ахоўваецца дагэтуль.

Сядзіба князёў Святаполк-Чацвярцінскіх, якую праектаваў архітэктар Уладзіслаў Марконі, закладалася ў 1907-1908 гг. Комплекс спалучаў палац, млын, флігель, кузню, іншыя гаспадарчыя пабудовы. Апошні ўладальнік сядзібы — Людвік Чацвярцінскі — загінуў у Асвенціме ў 1941 г.

Мястэчка багатае на славутыя імёны. У родавай крыпце касцёла пахаваны Антон Тызенгаўз, дзяржаўны дзеяч, знакаміты гарадзенскі староста. Тут нарадзіўся не менш знакаміты прадстаўнік гэтага роду Канстанцін Тызенгаўз, асветнік, прыродазнавец, арнітолаг. У яго гонар не так даўно прадаўжальнікі яго справы ўсталявалі на сцяне касцёла Ушэсця (яго ў XIX ст. праектаваў вядомы архітэктар Карл Падчашынскі) памятную дошку. Жалудок таксама радзіма Валерыя Урублеўскага, аднаго з кіраўнікоў паўстання 1863 г., пазней генерала Парыжскай камуны, пахаванага ў сталіцы Францыі.

Жалудок мае нават свой сцяг — жоўта-зялёная харугва з быком у верхняй частцы і падковай у ніжняй. Сучасная гаспадарка мясцовасці можа пахваліцца буйным жывёлагадоўчым комплексам. А яшчэ тут у цэнтры знаходзіцца парк каменных скульптур — у самым цэнтры мястэчка пару год таму прайшоў плённы пленэр каменячосаў, якія падарылі свае творы жыхарам. У глыбіні „парку камянёў” стаіць праваслаўная царква. Яна ўзнікла на аснове колішняга драўлянага будынка бальніцы і была вельмі арыгінальнай, а цяпер абкладзена цэглай і накрытая чырвонай дахоўкай. Нядаўна на адной з вуліц паўстала шыкоўная аграсядзіба. Жалудок жыве сваім жыццём.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Хваляць „Ніву”

Уладзімір СІДАРУК

52 нумар „Нівы” (з календаром) ад 25 снежня 2011 г. выйшаў 14-тысячным тыражом. Ужо гадамі я займаюся распаўсюджваннем тыднёвіка. Калі ліквідавалі ў Чаромсе кіёск на пероне, дык не стала ў ёй „Нівы”. На пошце сказалі, што газетай ніхто не цікавіцца, таму і не заказваюць. Святочнае выданне „Нівы” людзі купляюць дзеля календара, у якім памечаны царкоўныя святы. Мне, як шматгадоваму карэспандэнту залежыць, каб наш тыднёвік трапляў да шырокага кола чытачоў. Таму па меры магчымасці памагаю ў яго распаўсюдзе. І чарамшане прывыклі ўжо звяртацца да мяне з пытаннямі наконт газеты.

У дзень выхаду „Нівы” з друкарні падаюся ў рэдакцыю, каб узяць некалькі дзесяткаў экземпляраў і зарэкамендаваць знаёмым. Сёлета, вяртаючыся дамоў, у цягніку разышлося мне дзесяць экземпляраў. Наступнага дня лік прададзенай газеты павялічыўся да сарака. Але гэтаму не канец. Лічу, што да канца года разыдзецца яшчэ некалькі дзесяткаў экземпляраў. І заахвочваю да такога супрацоўніцтва іншых. Варта адзначыць, што сёлетні каляндар удалы. Станоўчую ацэнку давалі мае суразмоўцы ў час сустрэч, асабліва хвалілі за графічнае афармленне. Слава за гэта Міраславу Здрайкоўскаму, аўтару цудоўных малюнкаў.

— Гляньце, — казалі жанчыны, узяўшы ў рукі „Ніву” з календаром. — Гэта ж макаткі, якія калісьці мы вышывалі...

А пры тым якія словы: „Калі „Ніва” на стале, усім нам усяго стае”. Няхай затым наша „Ніва” з гэтымі пажаданнямі трапіць пад страху кожнага, хто называе сябе беларусам і не цураецца сваёй тоеснасці. Таго ад шчырага сэрца напярэдадні Новага года і Каляд чытачам і журналістам жадае вышэйпадпісаны.




# Пенсіянеры ў крызісе?...

Чаромхаўскі аддзел Саюза польскіх пенсіянераў і інвалідаў налічвае каля 400 членаў. Нягледзячы на сціплы бюджэт, праўленне аддзела арганізавала (па меры магчымасці) сваім членам шмат цікавых мерапрыемстваў: краязнаўчыя экскурсіі, танцавальныя вечарыны, Дзень сеніёра (пры фінансавай дапамозе Гміннай управы) ды іншыя. Да гэтых апошніх можна было залічыць традыцыю пасылання членам юбілейных віншаванняў з нагоды дня нараджэння. Як мне сказала старшыня кузаўскай ячэйкі, з пачаткам студзеня 2012 г. чаромхаўскае праўленне аддзела не будзе ўжо пасылаць паштовак з віншаваннямі. Так рашылі ваяводскія ўлады Саюза польскіх пенсіянераў і інвалідаў у Беластоку. Прычына вядомая — крызіс. І хоць здавалася б, што выдатак на гэтую мэту складаў усяго некалькі соцень злотых, для пенсіянераў, як гэта кажуць, „на бязрыб'і і рак — рыба”. Што ж, з воляй лёсу трэба змірыцца. У жыцці ўсяляк бывае!

# Па гарачых слядах

Саўляны — даволі вялікая вёска каля Беластока. У ёй пражывае 330 чалавек. Сюды пару разоў ездзіць аўтобус гарадской камунікацыі лініі 13. У суботу і ў нядзелю два курсы ліквідавалі. Выедзеш з Саўлянаў а гадзіне сёмай раніцы, а вярнуцца назад можаш ажно праз сем гадзін! Раней няма аўтобуса, каб недзе ў поўдзень вярнуцца дадому.

Саўляны належаць да Супрасльскай гміны. Яны на яе перыферыі. Па ўсім відаць, што тутэйшыя самаўрадаўцы пасіўныя. Пра яшчэ адзін курс у Саўляны ў выхадныя дні не намагаюцца ні салэцкая рада, ні солтыс, ні радны. Калі цяперашні бурмістр Супраслі Радаслаў Дабравольскі кандыдаваў на гэтую пасаду, тады прыехаў у Саўляны і паабяцаў больш аўтобусных курсаў. Саўлянцы яму паверылі. Яго выбралі, ён мэту дасягнуў. А пра абяцаныя аўтобусы забыўся. Ды зараз і заяўляе — прынамсі мне — што на дадатковы курс грошай няма ў гмінным бюджэце. Вось як стрымлівае слова новаабраны кіраўнік гміны.

Саўлянцы плацяць падаткі, а солтыс не дамагаецца, каб праклаcці тратуар да новапабудаваных дамоў ды рамантаваць мясцовыя дарогі. Солтыс ездзіць сваім самаходам у Супрасль напрасткі цераз Каракулі і Агароднічкі. Нематарызаваныя саўлянцы ездзяць у тую ж Супрасль цераз Беласток і затрачваюць на такую паездку ўвесь дзень. Яны вымушаны ездзіць з перасадкамі.

Зараз дзень кароткі, пасля поўдня хутка робіцца цёмна. Жыхары Саўлян вымушаны хадзіць з канца горада, ад былой вялікай цяпліцы па вуліцы 27 Ліпеня, у сваю вёску 1,5 кіламетра. Ходзяць краем маставой. Няма тут нават веласіпеднай сцяжынкі. Тут небяспечна, вялікі рух аўтамабіляў.

Янка ЦЕЛУШЭЦКІ

| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | 2 | | | | | | | | | | 3 | 4 | | | | | 5 | 6 | | 7 | 8 | | | |
| | | | | | | 9 | | 10 | | | | | | | | | | | | | | 11 | | | | |
| | | 12 | | | | 13 | 14 | | 15 | 16 | 17 | | | | | 18 | | 19 | | 20 | | | | | | |
| 21 | | | | 22 | | | 23 | | | | | 24 | | 25 | | | | | | | | | | | | 26 |
| | | | | 27 | | | 28 | 29 | 30 | | | | | 31 | | 32 | | 33 | | | | 34 | | | | 35 |
| | | | | | 36 | | | 37 | | | | | | | | | | | | 38 | | | 39 | | | |
| 40 | | | | | | | | | | 41 | 42 | | 43 | | | | | 44 | | | | | | | | |

1. невялікі звярок з вострымі іголкамі на спіне і баках, 2. дзікая жывёла, 3. ураджай, 4. гара на ўсход ад Іардана, якая згадваецца ў Біблії, м.інш. у Песнях песняў (6,5) і Быцці (37,25), 5. упадак, стан аслаблення дзейнасці, 6. раўнамернае чаргаванне напр. музычных гукаў, 7. даўнейшая мужчынская верхняя вопратка, звычайна без рукавоў, 8. рэлігійны цэнтр індуізму на рацэ Ганг, 9. żelazko, утюг, iron, 10. партнёрка казла, 11. „хамут” вала, 12. адчуванне ўласцівасці ежы, 13. трэці гук гамы, 14. прыназоўнік... вазьмі, бяры, 15. вялікі вадаём, ... у якім нарадзіўся Віктар Швед, 16. левы прыток Табола на расійска-казахскай граніцы, 17. вёска „Цаглінак”, 18. рыба на бязрыб'і, 19. кінематаграфія, 20. каўказкае паселішча, 21. сталіца Уладзіміра Пуціна, 22. здольнасць чалавека лагічна думаць, 23. мяккі знак, 24. нутраны тлушч, 25. 3,14, 26. літаратурнае імя Аляксандра Баршчэўскага, 27. мужчына, які мае жаніцца, 28. дэспат, 29. колішняя паштовая станцыя, 30. напр. Кліо, 31. былая партугальская калонія на захадзе Індыі, 32. зарослы травой і карэннем верхні слой глебы, 33. галоўны фінікійскі бог, 34. другі спадарожнік Юпітара, 35. свойская жывёліна падобная на каня з доўгімі вушамі, 36. запас, 37. муж свацці, 38. лямпа для фотаўспышкі, 39. спорт Віталя Шчэрбы, 40. пад яго вада не пацячэ, 41. бітва, 42. дошчачка для крыцця даху, 43. Мікалай, расійскі жывапісец (1831-94), 44. брат Каіна.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — страфа Алеся Гаруна.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 48 нумара**

Выява, гарох, герой, Гобі, гуз, дурань, жыла, Іўе, кашчэй, кілім, лыч, май, музей, Нёман, пай, паша, пуць, рэчка, сцюжа, цяга, ютрань, ява, яма, яхта.

Рашэнне: **Разгарайся хутчэй мой агонь між імглы, хай цябе шум вятроў не пужае, пагашаюць яны аганёчак малы, а вялікі крапчэй раздуваюць**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалу Байко і Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока.

# 01.01 — 07.01

**(22.03. — 20.04.)** Урэшце зразумееш, чаго хочаш ад жыцця. Добры час на экзатычнае падарожжа. Добра загуляеш. Калі, аднак, залежыць табе на павышэнні ў фірме — пільнуй справы. Ды асоба, якую ты абразіў, можа мсціцца.

**(21.04. — 21.05.)** Адчуеш, што мала ўжо хапае табе да шчасця. Пакажаш свае тузы. Твой аптымізм усіх зварухне. Забудзешся пра свае комплексы і ўзрост. Хворыя рэўматызмам панаракаюць; не цягайце мэблі, не выседжвайце пры камп'ютары.

**(22.05. — 22.06.)** Нанова адкрыеш свае мары і будзеш іх здзяйсняць. Ідэальны час на падарожжы. Ад 5.01. — мноства энергіі і веры ў сябе. Хоць на працы стрэс і магчымы канфлікт. Пазбягай ныцікаў.

**(23.06. — 23.07.)** Хапай карысныя нагоды і не бойся змен. Дасі рады з кожным выклікам. Дбай, каб партнёр адчуў, што яго кахаеш. Дома крыху хаосу, з-за найменшых. З 7.01. (да 11.01.) можаш адкрыць у сабе новы талент. Магчымасці павышэння, ды будзе шмат канкурэнтаў.

**(24.07. — 23.08.)** Смела бярыся за новыя выклікі. Дзякуючы сваім задумам можаш шмат зарабіць. Вельмі працавіты ўвесь месяц. Будзеш дакладны і абавязковы. Найбольш прыемныя хвіліны ў пары — уся першая палова студзеня. Дзецям спатрэбяцца грошы. Нявінны флірт можа замяніцца ў палымянае каханне.

**(24.08. — 23.09.)** Дома рух як на вакзале! Праверышся ў нялёгкіх сітуацыях. Будзеш ведаць што рабіць і не дасі сабою кіраваць. Увесь месяц у фантастычнай форме. Праца — тваё хобі і любоў. Будзеш есці больш вітамінаў, карыстацца добрай касметыкай. З 6.01. (да 10.01.) — дасканалы настрой і адвага ў кантактах.

**(24.09. — 23.10.)** На забавах будзеш у цэнтры зацікаўлення. З дапамогай зычлівых людзей можаш далёка зайсці. Свае справы аформіш хутка і без сантыментаў. Будзеш арбітрам і дарадчыкам. Будзеш упарты, удачлівы, паслядоўны і разумны. І штораз лепш у фінансах!

**(24.10. — 22.11.)** Аж да 29.01. будзеш мірыць людзей і шукаць паразумення. Калі затое не ладзіце з партнёрам, міру не будзе. 1-4.01. пазбудзешся ілюзій. Будзеш мець неўтаймавальны апетыт на жыццё і вялікія амбіцыі. У студзені перад табой паласа поспехаў і вялікіх дасягненняў. У першай і другой дэкадзе можаш старацца за лепшую пасаду, вырашаць нялёгкія прафесійныя задумы.

**(23.11. — 22.12.)** Ненайлепшая форма — дзве першыя дэкады; калі хварэеш, пільнуйся, каб не пагоршала. Прыцягнеш да сябе шчасце і дабрабыт. З 6.01. (да 10.01.) удачы ў юрыдычных і гандлёвых справах ды бізнесе. Ухопіш кожную нагоду, якой іншыя нават не ўбачаць.

**(23.12. — 20.01.)** Не сыходзь са шляху, бо ідзеш у добрым напрамку. У каханні не разлічвай на касмічныя парывы сэрца, ды пераканаешся, якіх маеш цудоўных сяброў. Урэдная асоба адчэпіцца ад цябе. З 05.01. (да 09.01.) прыйдуць да цябе падмацоўваючыя весткі. Можаш ачоліць нейкую групу, прыняць удзел у важных размовах.

**(21.01. — 19.02.)** Прыглянься справам, якія дагэтуль табе не ўдаваліся, а знойдзеш абсалютна трапнае вырашэнне. Прыблізішся да кагосьці, з кім табе было дасюль не па дарозе. Трэба будзе заняцца асобай, патрабуючай дапамогі. Шмат работы на працы, ды справішся. Добры настрой ды здароўе; калі ты хварэў — паправішся.

**(20.02. — 21.03.)** Можа турбаваць цябе прастуда, запаленні; не паддасіся, ды Рыбы з паловы сакавіка — марш да доктара! Першую палову месяца лепш прызнач на адпачынак. За гэты час прыхіліш да сябе тых, чый голас вельмі лічыцца. Пільнуй кашалька, бо пакуль няма што разічваць на вялікую фартуну. 5-9.01. ты не павінен мець падстаў для турбот. Затое ў студзені можаш ачараваць кожнае сэрца! Забудзешся, што такое сціпласць і нясмеласць!

Агата АРЛЯНСКАЯ

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.

**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Termin przyjmowania wpłat do 5-go dnia każdego miesiąca poprzedzającego okres rozpoczęcia prenumeraty.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „RUCH” i „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Cena prenumeraty kwartalnej: I kwartał — 32,5 zł., II kwartał — 32,5 zł., III kwartał — 35,0 zł., IV kwartał — 32,5 zł., rocznej — 132,5 zł.
**Prenumerata z wysyłką za granicę**
Wpłaty przyjmuje „RUCH” S.A. ul. Annopol 17a, 03-236 Warszawa; telefony: +48(22) 69-36-775, +48(22) 69-36-782, +48(22) 69-36-718; www.ruch.pol.pl
**Prenumerata w redakcji**
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2012 roku — 53.
**Przesyłka zwykła:** Cena 1 egz. wraz z wysyłką w kraju wynosi 4,2 zł.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład**: 1 300 egz.

Апошнім часам модным стала збіраць памяткі па сваіх продках, не толькі здымкі ці дакументы, але і матэрыяльныя вырабы, якімі карысталіся бабулі ці нават прабабулі. Аднак дзеля рэалізацыі такой задумы патрэбнае месца, дзе можна было б перахоўваць сямейную спадчыну. Сурвэткі, абрусы, макаткі ці даўнія капы можна перахоўваць нават у адноснa невялікіх кватэрах у блоку, але ўжо трэба больш месца на старыя сундукі, ложкі ці шафы, не гаворачы аб кроснах ці калаўротках, якія ў найлепшых выпадках складваюцца на паддашках або ў даволі сухіх памяшканнях у хлеўчыках. Бывае і так, што маладыя рашаюцца абсталяваць у сваім доме пакой на даўні лад і ставяць у ім сундук, старыя стол і крэслы і засцілаюць там даўнія абрусы і сурвэткі. Але ж часта даўнія драўляныя прылады працы надалей паляцца, жалезныя прадаюцца на скупцы металалому за сімвалічныя капейкі. Мы ў „Ніве" хвалім і апісваем ініцыятывы, калі адкрываюцца школьныя, гмінныя, прыватныя ці нават прыходскія, як у выпадку Рыбалаў, рэгіянальныя ізбы, якія называюць музеямі. Цэлы свой стары, але адрамантаваны драўляны дом прызначыла на сямейны музей Лена Харкевіч з Плянты, якая адначасна займаецца агратурыстычнай дзейнасцю.



Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Сямейны музей у Плянце

Спадарыня Лена Харкевіч

— Я рашылася арганізаваць сямейны музей, каб перш за ўсё захаваць памяткі датычныя непасрэдна маёй і мужавай сям'і, якія без дагляду маглі б загінуць. Такім чынам таксама захоўваецца наша беларуская спадчына, — сказала Лена Харкевіч. — У наш музей прыходзяць паглядзець даўнія экспанаты і мясцовыя, і прыезджыя турысты. Гэта козыр нашага сямейнага музея. Вучні з нараўчанскай школы таксама сталі прыязджаць да нас, каб дакладней пазнаёміцца з жыццём у мінулым.

Гадоў дзесяць назад спадарыня Лена стала збіраць палатняныя вырабы сваіх бабуль і прабабуль, вышываныя, гафтаваныя і іншыя выкананыя рознымі ткацкімі спосабамі, а таксама ткацкія прылады працы, якія паказвала турыстам у сваёй вялікай мураванай хаце і ў мураваным гаспадарчым будынку. Пазней сабрала яшчэ больш экспанатаў і да іх дадала таксама нешматлікія вырабы перададзеныя ёй ад знаёмых. Урэшце Лена Харкевіч разам з мужам Мікалаем рашыліся правесці невялікі рамонт драўлянай хаты, перавезенай раней з Семяноўкі і пастаўленай непадалёк ад мураванкі, у якой спачатку жылі бацькі спадарыні Лены — Ніна і Ян Каліноўскія. І ў гэтым доме быў створаны сямейны музей.

— У музеі частка майго і мужавага жыцця. Тут жа захоўваецца сямейная спадчына. Здымкі і экспанаты сведчаць аб жыцці нашых продкаў. Калі я заходжу ў наш музей, там усё мяне радуе. То пагляджу на сямейныя здымкі, то дакрануся да даўняй вопраткі і іншых рэчаў, якімі карысталіся продкі і пачынаю ўспамінаць, — сказала Лена Харкевіч.

Дом прызначаны на музейную дзейнасць звонку не вылучаецца нічым асаблівым, бо і такія хаты будаваліся ў мінулым на Гайнаўшчыне, непадалёк ад Белавежскай пушчы. У доме — вялікія сені, камора, кухня, прыёмны і вялікі пакоі. Вялікі пакой раней быў раздзелены на спальню і пакой, але ў час арганізавання музея быў вернуты яму даўні выгляд. У музейнай хаце заўважыў я, што ўсе пакоі моцна застаўлены экспанатамі. Частка з іх не стаяла пастаянна ў дамах нашых бабуль у мінулым, але прыносілася ў іх толькі час ад часу, напрыклад, калыска, кросны, ткацкае абсталяванне ці разнародны посуд у кухні, які звычайна стаяў у каморы. Аднак жа гэтыя экспанаты трэба было недзе запрэзентаваць.



Турысты асабліва цікавяцца ручнікамі са старымі вышыванымі і карункавымі ўзорамі



— На ручніках відаць розныя ўзоры, як на палатне, так і на карунках, што ўпрыгожваюць палатно. Але не ўсе ручнікі тут да канца арыгінальныя, бо вось на гэтых я дарабляла карункі, — гаварыла Лена Харкевіч аб ручніках, якія красаваліся адразу пасля ўваходу ў хату, у сенях. Пад сцяной у сенях стаяў *сундук*, а на ім ляжала *валкаўніца*. У сундуку знаходзілася ільняное палатно і ткане на кроснах сукно. У сенях была яшчэ бочка, у якой у мінулым перахоўвалася, напрыклад, капуста, а збоку знаходзілася церніца. У прыёмнай, якую ў нас называлі таксама *перадпакоем*, на сценах віселі здымкі, між іншым, бацькоў спадарыні Лены — Ніны і Яна Каліноўскіх і бацькоў яе мужа Мікалая — Вольгі і Грышы Харкевічаў з Ляўкова. Стаяў тапчанчык, на якім можна было адпачываць каля печы, якая так была размешчана ў хаце, што абагравала кухню, *перадпакой* і вялікі пакой. Аднак зімой не хапала такога абагравання і вечарам трэба было карыстацца печкай, якую называлі *сцяноўкай*. У прыёмнай можна яшчэ ўбачыць старыя радыёпрыёмнік і шафу, даўні стол з сурвэткай і старыя крэслы.

У вялікім пакоі адразу кідаюцца ў вочы вялікія кросны з анучкамі парэзанымі на вузкія стужкі і падрыхтаванымі для ткання *палавікоў*, а побач кроснаў стаяць *калаўротак* і *снойніца* ды красуюцца даўнія пакрывалы.

— Ёсць тут *пасякі, кілімы, рэдна* і ўсялякія іншыя старыя *капы*, — удакладняла спадарыня Лена. — Напрыклад, гэтым канапяна-ільняным *рэднам* больш за 100 гадоў. Раней яны былі ўласнасцю маёй бабулі.

Збоку ў вялікім пакоі знаходзіцца таксама даўняя швейная машына з клубкамі нітак, стаіць калекцыя прасаў (*уцюгаў*) на вугаль, а побач ложка вісіць калыска падвешаная да столі. Ложак прыкрыты прыгожым пакрывалам, а на ім ляжаць згодна з мясцовай традыцыяй падушкі з вышыванымі і гафтаванымі *навалачкамі*. Прыгожа вышыванае пакрывала вісіць на сцяне, а непадалёк ад ложка стаяць старыя шафа і сундук (з другога боку), а ў іх знаходзіцца старая вопратка бабуль і дзядуляў і больш сучасныя вышываныя і карункавыя вырабы.

— Са старой вопраткі, якую я перахоўваю, самыя даўнія два бабуліны *саяны*, вышываная блузка і даўні *фартух*, — удакладніла Лена Харкевіч. — А ў кухні таксама стаяць даўнія экспанаты — *саганы*, *дзежка*, *бойка* для выбівання масла і гліняныя гаршкі, што былі прывезены з Лукі залітай вадой Семяноўскага вадасховішча. Некаторыя з гэтых экспанатаў можна было б таксама паказваць у каморы, але яна прызначана зараз на гаспадарчае памяшканне.

Магчыма, што спадарыня Лена Харкевіч навучылася займальна расказваць, працуючы з турыстамі ў сваёй агратурыстычнай кватэры.

— Многія экспанаты прэзентаваныя ў нашым музеі ўжо невядомыя маладым людзям. Паказваем усё гэта недзе з восені мінулага года, — сказала Лена Харкевіч.

Калі зараз, у XXI стагоддзі, у развітых краінах робіцца стаўка на сваю традыцыю, а на падставе гэтага будуецца сучаснасць, радасна распавядаць пра беларусаў з нашага рэгіёна, якія таксама рашыліся як мага найбольш захаваць памятак з нашага мінулага, а пры гэтым прэзентаваць іх грамадству. Можа рэгіянальная ізба спадарыні Лены Харкевіч у Плянце не вылучаецца нечым асаблівым у маштабе Беласточчыны, але ж паказвае асаблівасць менавіта Нараўчанскай зямлі. Напрыклад, вышываныя, ці карункавыя вырабы з Нараўчанскай гміны крыху розняцца ўзорамі ад вырабаў з Заблудаўскай гміны, што прэзентуюцца ў музеі „Бацькаўшчына" ў Рыбалах, ці ад вырабаў, якія паказваліся на выстаўках у Студзіводскім музеі. Пэўна можна было б таксама знайсці іншыя розніцы ў прэзентаваных экспанатах, у паасобных гмінах, напрыклад, з галіны рамяства, бо ж былі таксама розныя школы рамеснікаў. Я думаю, што добра было б, каб яшчэ этнографы апісалі гэтыя экспанаты, што прэзентуюцца ў розных беларускіх ізбах, бо гэтыя ж вопісы вельмі важныя, асабліва калі даўнія вырабы і прылады працы будуць даўжэй перахоўвацца для наступных пакаленняў.

ISSN 0546-1960